немаўляці на руках. Спакутаваны Спартак усміхаецца. Гісторык пытае: «Ты чытаў падручнік?» Чытаў не чытаў, без розніцы. Я чатыры серыі паглядзеў. «Чытаў»,— кажу. А гісторык: «Сядай, «два».

«...ягоныя ворагі — рымскія ды грэчаскія пісьменнікі».

Чаму пісьменнікі? Няясна. У мяне бацька — беларускі пісьменнік. Але я пра гэта нікому не гавару. Нашто? Каб пачуць — інтэлігент? Потым бойка? Біцца ўмею. У нашым класе ўсе... Трэба вывучыць пра Спартака.

«Правадыром паўстанцаў быў Спартак, ён вылучаўся вялікай сілаю, розумам і смеласцю».

Малюнак 3. Ашыйнік раба.

Ашыйнік падобны да сабачага, толькі што без ланцуга. Цікава, спалі рабы ў ашыйніках ці не? У кіно спалі без ашыйнікаў. Але кіно я больш не веру. Хопіць адной двойкі.

Трэба сыходзіць.

Пасля размінкі мы сядзім на доўгай лаўцы, як гладыятары. Трэнер у чорных барцоўках (мне б такія!) стаіць на сярэдзіне барцоўскага кіліма, што пахне потам і жывёлінаю. У трэнера аголены торс. Ён уздымае мускулістую руку: «Ты і ты!» У яго тугі голас, якім добра аддаваць загады. Ён і аддае.

Устаю, бо трэнер паказаў на мяне. Разам са мною на кілім выходзіць Віталь. Трэнер садзіцца на лаўку.

У Віталя сапраўднае барцоўскае трыко, у мяне плаўкі. У яго скураныя барцоўкі, у мяне дабітыя на футбольным пляцы паўкеды. У яго бацька старшыня, а ў мяне — ужо казаў. Ён — задаволены, я — злы. Гэта здзек выставіць мяне супраць Віталя. Ён на кілаграмаў дзесяць вагчэйшы. Для мяне здзек, а для тых, хто на лаўцы сядзіць,— забаўка. У трэнера свой інтарэс, спадзяюся.

Набліжаемся. Пачынаем «разведку».

Згадваецца недачытаны параграф.

«Крас не адважыўся напасці на войска Спартака. Ён заняў вузкі перашыек, па якім праходзіў адзіны шлях з мыса. Ад аднаго берага мора да другога рымляне выкапалі глыбокі роў і насыпалі высокі вал. Паўстанцы апынуліся ў пастцы. Сярод іх пачаўся голад».

У Віталя заўсёды сыты выгляд.

Спартак звярнуўся з прамоваю да паўстанцаў. У кіно гэта выглядала так. Спартак стаіць на скале і высока трымае свой бліскучы меч. Пад скалой галодныя рабы. Неба сіняе. Сонца яркае. Спартак загарэлы. Ён і сказаў, што лепш памерці ад жалеза, чым з голаду.

«З голаду ў нас ніхто не памірае»,— любіць казаць настаўнік гісторыі.

У Віталя няма плячэй. Ён роўны, як ліхтарны слуп. І патыліцы ў Віталя няма, шыя плаўна пераходзіць у цемя. Такая сапраўдная спартыўная галава — няма за што ўхапіцца, такая сапраўдная барцоўская постаць — не зачэпішся.

Па тэлевізары паказвалі барцоў сумо; нам такое і не снілася.

Цяжкая далонь кладзецца мне на шыю. Спрабую скінуць. Трэба быць рэзкім. Скідваю руку з шыі. Віталь яшчэ не сабраўся. Ён упэўнены, што пераможа. Яму можна і не спяшацца. Мне таксама няма куды спяшацца. Прайграць заўсёды паспею.

Барэц сумо можа важыць дзвесце кілаграмаў і рабіць «шпагат». Каб не бачыў па тэлевізары сам, нікому б не паверыў. Але тэлевізару, як і кіно, лепш не верыць. Падмане, і «два балы».

Віталь зноў хапае мяне за шыю. Каб быў хто другі ці каб ён быў крыху лягчэйшы, я б адразу... Што губляць? Барацьба сумо. Спартак. Лепш смерць... Хапаю Віталева запясце і ныраю яму пад руку. Мая вольная рука пралятае паміж тоўстых сцёгнаў і рэзка ідзе ўгору. Папаў. Яму забалела. Паўстанцы апынуліся ў пастцы. Як Віталь зараз. Краем вока бачу, як уздымаюцца над кілімам барцоўкі. Ну і маса. Барцы сумо такіх прыёмаў не робяць, каб адзін аднаго на плечы ўскідваць. А можа, і робяць. У вачах цямнее. Але Віталь ужо ляжыць у мяне на плячах. Зараз, зараз... Толькі б не памыліцца і правільна кінуць. Калені мае падгінаюцца. Барцоўкі ўзлятаюць да столі. Ху-х. Мы на кіліме. Віталь робіць «мост» і пераварочваецца на жывот. Але я наверсе. Перакуліць такую масу з жывата на спіну будзе цяжка. Ужо цяжка. Мая далонь слізгаціць па кіліме пад ягонаю рукою, пальцы сашчапляюцца над шыяю — «замок». Клас. Выварочваю яму плячо. Нарэшце пераварочваю, але Віталь зноў становіцца ў «мост». А зараз рэзка! Б'ю сваім старым паўкедам па Віталевай пятцы ў барцоўцы і навальваюся яму на грудзі. Барцоўка слізганула па кіліме, нага выпрасталася. Адна лапатка на кіліме. Рэзка! Прыўздымаюся і з усяе моцы цісну яго ў кілім. Ён на лапатках. Абмяк. Я выйграў. Схватка мая. Вось так маса ў барцоўках.

Устаём. Ён чырвоны. Трэнер падыходзіць і ўздымае маю руку.

Пераапранаюся. На крэсле ляжыць мой падручнік. «Гісторыя старажытнага свету».

Малюнак 1. Параненены Спартак. (Паводле сценапісу ў Пампеі.) Рымскі воін параніў Спартака ўдарам кап'я ззаду.

Шкада, што малюнак некаляровы, адзін тонкі чорны абрыс. А кіно каляровае. У Спартака быў чырвоны плашч і белы конь.

«У 71 годзе да нашай эры адбылася апошняя бітва Спартака з рымскім войскам. Спартак імкнуўся прабіцца праз легіянераў да Краса і забіць яго».

Трэба бегчы.

На вуліцы сонца, па-вясноваму свежа. Пасля спартыўнай залы прыемна стаяць на ганку з аднагрупоўцамі па вольнай барацьбе.

Але трэба бегчы.

Запісвацца на барацьбу мы прыйшлі ўтрох: я і яшчэ два аднакласнікі. Хацелі хадзіць на бокс, але адзін з маіх аднакласнікаў «скіс» пасля другой трэніроўкі. Ён не мог ні разу падцягнуцца на кольцах, усе смяяліся. Ён больш не прыйшоў. Другога выгнаў трэнер, бо той курыў. Трэнер учуў запах тытуню і прагнаў майго аднакласніка. Даводзіцца ездзіць на трэніроўку аднаму. Затое можна ў тралейбусе пачытаць падручнік.

«...імкнуўся прабіцца праз легіянераў да Краса і забіць яго».

Сыходжу з ганка. Ганак высокі, наша спартыўная зала ў былым саборы. Праходжу паўз музычную школу. Заварочваю за рог. Мяне перапыняе Віталь. «Пагаворым?» — кажа ён. А што тут гаварыць? Тут усё ясна. Ён вагчэйшы на кілаграмаў дзесяць і ростам вышэйшы. І ў дадатак ён зараз злы. Ясна, што за размова нас чакае, але саступаць не хачу. Як бы там ні было, а схватку я выйграў.

Спартак быў гладыятар.

«Пайшлі ў двор»,— кажа Віталь. У двары пуста.

Арэлі, пясочніцы, лаўкі ўсе пустыя.

«Ну што? Схватку выйграў? Толькі ніхто не ўбачыў, як ты яе выйграў. Ты мяне ўдарыў. Ты — падонак, і я зараз табе пакажу, як трэба біць, каб выйграваць».

Віталь хапае мяне за куртку. У мяне новая куртка. Парве. Што я дома скажу? Маці і так супраць барацьбы. А тут яшчэ парваная куртка.

«Стой, куртка ў мяне новая, я здыму...»

Віталь адпускае куртку. Я хутка здымаю яе і кідаю на лаўку. Рабы хадзілі ў дзіўных палатняных мяхах з дзіркамі для рук і галавы. У Рыме значна цяплей, чым у Мінску. У нас у такім мяшку акалеў бы. Куртка саслізгвае з лаўкі і падае ў пясок. Нахіляюся, каб падняць. І незаўважна для Віталя зачэрпваю жменю пяску.

Зараз ты ў мяне атрымаеш, ты мяне навучыш, як трэба біць, тут табе не спартыўная зала, дзе правілы і трэнеры. Тут вуліца.

«Піраты падманулі Спартака: паабяцалі перавезці на востраў і не перавезлі».

Віталь толькі пачаў замахвацца, як я шпурнуў са жмені пяском яму ў вочы. Галоўнае, каб ён не схапіў мяне. Схопіць — канец.

Віталь хапаецца рукамі за твар. Ён трэ засыпаныя брудным пяском вочы. Я б'ю кулаком яму ў грудзі. Ён пахіснуўся, але стаіць. Віталь плача. Ён размазвае бруд па твары і плача.

«Канчай. Ты што? Пайшлі ў душ памыемся».

Мы вяртаемся ў будынак спартыўнага таварыства. Душ у сутарэннях. Мыемся. Потым сядзім. Нават у душы чуваць тугі голас нашага трэнера: «Раз-два, раз-два, раз-два». У іх там размінка.

У тралейбусе еду адзін, Віталь жыве за горадам, на трэніроўкі ездзіць на электрычцы.

Вучу.

«Пад магутнымі ўдарамі Спартака палі два варожыя камандзіры. Але і яго самога паранілі кап'ём у сцягно. Паранены Спартак стаяў на адным калене і працягваў біцца. Рымляне не змаглі ўзяць яго жывым». А ў кіно змаглі. Сетку на галаву накінулі і звязалі, як звера. Але кіно... «Спартака так пасяклі ў бойцы, што нават цела яго не знайшлі на полі». Так, у кіно такое не здымеш. Чалавека сякуць на кускі. А можа, ён і не загінуў, калі цела не знайшлі?

Сыходжу. Ледзь не праехаў свой прыпынак. А бывала, і праязджаў. Заснеш пасля трэніроўкі. Прачынаешся — кальцо, вадзіцель смяецца... «Во! Падручнік у тралейбусе пакінуў». Ну і хай.

Цікава, рабы спалі ў ашыйніках ці не?

## БІТУМНЫЯ КАПЯЖЫ

Двор ад кацельні адгароджваў звычайны, а як на нас, дзяцей, то і высачэзны цагляны паркан. Адзіным, што вытыркалася з-за яго, парушаючы аднастайную зменлівасць неба, блакітнага летам і ўвесну, а восенню і ўзімку спрэс у шматах хмар, быў стары комін з рагамі громаадводаў наверсе. Калісьці цёмна-чырвоны, цяпер жа добра ўжо ўчарнелы, сям-там перахоплены ржавымі абрэнчамі, металічныя скобы-прыступкі даходзілі да самага жарала, але імі ніхто не лазіў. Прыкручаны да верхняй скабы адцінак дроту звінеў ветранымі начамі, звінеў ён і днём, але тады яго ніхто не слухаў. Сонца, што ўзнімалася з-за нашага дома, пераходзіла над дваром і нязменна хавалася за парканам, двор шарэў, толькі стары комін яшчэ нейкі час казытала святло.

У нас, хлопцаў, была таямніца, звязаная з парканам. У самым зацішным яго рагу мы прасвідравалі скразную адтуліну і гадзінамі маглі па чарзе глядзець праз яе на парэпаны мур нейкай закарэлай будыніны.

Нашы гульні звычайна канчаліся парканам: адчуваючы спінаю цагліны, тут адбіваліся з драўлянымі аўтаматамі ў руках ад нязлоўленых хлопцаў-салдат, ля яго мы заўсёды гулялі ў футбол, і калі немагчыма было прабіць па прамой, не задумваючыся білі па паркане. Мяч рыкашэтам трапляў або да сваіх, або ў вароты. Аднак часам мяч пералятаў паркан, і тады мы свісталі, крычалі. Часцей за ўсё ён вяртаўся да нас: спачатку імкліва ўзнімаўся ў неба, рабіўся нават меншы за сонца, а потым, дасягнуўшы зямлі, яшчэ доўга падскакваў з характэрным звонам; радзей мяч знікаў назаўсёды, а аднойчы ён вярнуўся да нас нежывы, ледзь не кранаючы верх паркана, пераляцеў і вяла апаў у пыл футбольнай пляцоўкі...

У такіх выпадках, а часам нават і без іх, мы набівалі папяровыя пакеты з-пад цукру пылам або гразёю, гледзячы па сезоне, і з крыкам «лажыся!» перакідвалі іх цераз паркан, затым, вядома, давалі лататы. Калі хто-небудзь з нас разжываўся дымавой шашкай, дык і яна пасля нядоўгай нарады пералятала паркан. Тады смуродны дым цягнуўся шызымі пасмамі праз усю тэрыторыю кацельні, каб знікнуць у адчыненай браме.

Зрэдку я ці так хто з хлопцаў-падлеткаў, якія жылі ў нашым двары, прабіраўся за паркан, што агароджваў кацельню ад двара. Узброены бутэлькай, прыкручанай да доўгага дроту, крадком слізгаў у шырока адчыненую браму і на кукішках, хаваючые я за грузавікамі, дападаў да бочкі з саляркай, апускаў бутэльку ў адтуліну і, счакаўшы,

пакуль сціхнуць бурбалкі, выцягваў за дрот. Калі шэнціла, то і прыхопліваў колькі кавалкаў карбіду са скрыні, што мясцілася недалёка ад блакітных балонаў; потым ужо, амаль не хаваючыся, ляцеў цераз браму за паркан, што агароджваў двор ад кацельні. Тут, у брудным вузкім праходзе, між вазоўняў, чакаў «героя» тузін хаўруснікаў. Чуўся крык «атас!», і мы зніклі. Потым на пустцы за фабрыкай палілі вогнішча.

Так было, здаецца, спрадвеку: паркан аддзяляў наш двор ад кацельні і кацельню ад нашага двара.

* * *

Той летні дзень пачаўся незвычайна: калі я выйшаў на вуліцу, убачыў у двары аброслы граззю, салідолам і маслам трал з невялікім занядбалым бульдозерчыкам. Рабочыя кацельні, што раней выходзілі за браму толькі паасобку, скупіліся непадалёку вялікім гуртам, перагаворваліся, а па сутнасці назіралі, як малады бульдазерыст у новенькай чорнай робе завіхаўся ля машыны. Нарэшце, калі ён сагнаў бульдозер на зямлю, з брамы выйшаў нейкі начальнік у гранатавым гарнітуры, пры гальштуку, але з расшпіленым верхнім гузікам на кашулі, паклікаў хлопца-механізатара і павёў яго па нашай футбольнай пляцоўцы ўздоўж паркана. Ён даваў нейкія парады, а той згодна хітаў галавою, астатнія рабочыя трымаліся трохі ззаду і час ад часу ўключаліся ў размову. Я заўважыў колькі нашых хлопцаў, што сачылі за падзеямі, стоячы каленямі на лаве ў альтанцы, і далучыўся да іх. Нарэшце начальнік махнуў рукой: маўляў, пачнём. Хлопец сеў за рычагі, дадаў абаротаў і крануў машыну з месца, выехаў на футбольную пляцоўку, потым, як мне падалося, крадком падвёў бульдозер да паркана, падпёр адну секцыю рогам адвала-папіхача, на імгненне заціх і рэзка тузануў машыну. Паркан даў трэшчыну, рабочыя, што стаялі побач, узбуджана загаманілі, а мы пачалі перашэптвацца. За наступным рыўком паркан абваліўся, мы і рабочыя разам закрычалі, хлопец з кабіны махнуў нам рукой, і бульдозер пераехаў да суседняй секцыі, пакінуўшы за сабой цагляны друз і каўтуны пылу. Пасля абеду ўсё было скончана — паркан больш не існаваў, бульдозер пагрузілі, адвезлі, рабочыя яшчэ трохі патаўкліся, а потым па адным, па двое пацягнуліся праз браму ў кацельню.

За гэтыя гадзіны сабраліся ўжо амаль усе нашы хлопцы, мы нейкі час са здзіўленнем пазіралі на аголены шары з сілікатнай цэглы будынак кацельні. Пад берагамі яго плоскага даху віселі бітумныя капяжы. Потым нясмела наблізіліся да валкоў цаглянага друзу, а ўбачыўшы, што ніхто намі спецыяльна не цікавіцца, пачалі гуляць у

вайну. Група, дзе быў я, абаранялася з боку кацельні, іншыя наступалі ад двара. Нарэшце групы змяшаліся, і мы проста пачалі дурэць пасяродку румавіска.

На ганак кацельні выйшаў рабочы з малатком і зубілам у руках. Мы адразу прыціхлі і на ўсякі выпадак адышліся ўбок. Рабочы з хвіліну прыглядаўся да нас, потым паклікаў:

— Хлопцы, хадзіце сюды!

Ніхто не варухнуўся. Тады ён спусціўся па прыступках і няспешна, каб не спудзіць, сам падышоў да нас.

— Хлопцы, дапамагчы трэба. Калі працу зробіце, я вам цукерак куплю, на ўсіх хопіць.

— А што рабіць?

— Выбірайце цэлую цэглу і складвайце сюды,— ён паказаў на адмостку ля трансфарматарнай будкі.

Хутка ўжо рабочы разбіваў сцэментаваныя брылы на асобныя цагліны, а мы цягалі з друзу на яго цэглу і з павагай пыталіся: «Дзядзечка, а гэту адкласці ці выкінуць?» Ён, не ўзнімаючы галавы, нязменна казаў:

— Адкладвай.

Цэглу мы не проста складвалі ў штабель, а пачалі ладзіць цэлы горад. Паволі з яе ўзніміліся хмарачосы, вежы, пракладаліся вуліцы. Узмакрэлыя ад працы, мы пакідалі на рэбрах цаглін адбіткі сваіх далоняў.

Калі праца закончылася, рабочы ўстаў і абтрос порткі.

— Вы тут без мяне пакуль канчайце, а я схаджу па цукеркі. Толькі без свавольства, каб малаток нікому не аддавалі,— сказаў рабочы і патупаў незаасфальтаваным, у выбоінах завулкам.

Мы цягалі цэглу, абмяркоўвалі, ці вернецца дзядзька, калі не, дык ці будуць дастатковай платай за працу малаток з зубілам, калі так — то колькі цукерак ён прынясе і якіх.

«Горад» быў ужо амаль скончаны, калі падышоў дарослы мужчына, бацька аднаго з нас.

— Што вы тут робіце?

— Нас дзядзечка папрасіў цэглу адабраць, ён тут працуе.

— Мы яму дапамагаем, а ён па цукеркі пайшоў.

— Мы ўжо амаль скончылі.

Мужчына сурова паглядзеў на нас і сур'ёзна сказаў:

— Гэты ваш дзядзечка дрэнны чалавек, ён эксплуататар, вы працуеце на яго, а грошы атрымае сам, заробіць рублі, а вам купіць цукерак на капейкі. Цукерак вы ў яго не бярыце, невядома, што ён там прынясе. Разыходзьцеся па хатах, брудныя ўсе як чэрці.

Так сказаў, забраў сына і пайшоў дадому.

Мы згрудзіліся ля вазоўняў, і нікому не хацелася гаварыць. Моўчкі пазіралі на свой «горад» з шурпатых, месцамі абколатых, у бялявых плямах цэменту цаглін.

Прыйшоў рабочы з пакункам танных цукерак. Мы змрочна падзякавалі, наспех падзялілі заробак і разбрыліся па пад'ездах.

Дзверы адчыніла маці.

— Ты чаго такі брудны? Мне суседка казала: вы там нейкую цэглу цягалі. І ты там быў, канечне.

— Зараз раскажу, мама.

Я слізгануў ёй пад руку і апынуўся ў кухні.

Старанна, каб не захрабусцець паперчынай, разгарнуў цукерку і паклаў у рот. «А можа, яна атручаная, дзядзька ж эксплуатататар?» Я выплюнуў цукерку ў кош, астатнія, што былі ў пакунку, хуценька, пакуль не заўважыла маці, засунуў пад смецце і выйшаў з кухні.

Гэтай ноччу я доўга не мог заснуць, вецер шамацеў за акном, і выразна чулася, як звініць дрот, прыкручаны да скабы на самым версе коміна. Калі пайшоў дождж, стала лягчэй. Паволі закруціліся струмені вады па шкле, паволі пачаў знікаць з маёй свядомасці пакой, паволі ападаў сон. Мне сніліся фракі, смокінгі і бліскучыя чорныя цыліндры.

Раніцай я прачнуўся позна, зусім хворы, відаць, прадзьмула ўчора на вуліцы. Маці прынесла сняданак у пакой. Унізе на двары чулася вуркатанне матораў, але да акна я дабраўся толькі пасля абеду, калі маці выйшла ў магазін. Босы, загорнуты ў коўдру, я стаяў, учарэпіўшыся за падваконне, і глядзеў, як экскаватар капаў траншэю пад новы падмурак. Час ад часу ад'язджаў, каб загарнуць цагляны друз на дно траншэі. Яго колы і коўш былі чырвонымі ад цаглянага пылу, бліскучыя штокі гідрацыліндраў адбівалі сонца. Следам кран укладваў блокі падмурка, а двое рабочых і той, каму мы ўчора адбіралі цэглу, ставілі між блокаў высачэзныя жалезабетонныя слупы, мацуючы іх доўгімі драўлянымі падпорамі. Экскаватар працаваў шпарка, і неўзабаве наш цагляны «горад» адцяў ад двара шырокі раўчук траншэі.

У дзвярах забразгацелі ключы, і я хуценька вярнуўся ў ложак.

Да ночы я праляжаў, уяўляючы сабе наш «горад». Ён разросся да агромністых памераў, па вуліцах ужо можна было хадзіць, задзіраючы галаву, каб паглядзець на вяршыні чырвоных хмарачосаў.

Назаўтра мне дазволілі ўстаць, і я амаль увесь дзень бавіўся ля акна, глядзеў, як кран ставіў жалезабетонныя панелі новага паркана, вышэйшага за папярэдні, паступова закрываючы ад зроку будынкі

кацельні. Знік за чарговай секцыяй і наш горад. Увечары толькі адзін комін вытаркаўся з-за свежа-шарай роўнядзі паркана, ды на адным з ім узроўні расцякаліся чорныя пляскатыя дахі.

Праз тыдзень мы з хлопцамі сядзелі на лаўцы, перакочвалі мяч нагамі адзін аднаму: гуляць у футбол па-сур'ёзнаму не хацелася. Хлопец з суседняга пад'езда раптам спыніў мяч і спытаўся:

— Як думаеце, а цераз гэты паркан можна перакінуць дымавуху?

— Не ведаю,— адказаў я,— калі не, то будзем майстраваць катапульту, я ведаю як.

* * *

Неўзабаве мае бацькі змянілі кватэру.

І толькі зусім нядаўна мне давялося зноў прайсці знаёмым з дзяцінства завулкам у выбоінах. Толькі што пафарбаваная брама кацельні была замкнёна знутры. Я наблізіў твар да шчыліны і ўбачыў парэпаны будынак з пустым ганкам, усе тыя ж капяжы пад берагамі даху, машынны двор у плыткіх калюжынах. Далей прастора была адрэзана створкай брамы, але там выразна маляваўся цагляны горад з напаўразбуранымі вежамі, што хаваліся ў здзічэлым быльніку.

Поруч пачуліся дзіцячыя галасы. Я адышоўся.

Праз пару секцый ад мяне сядзелі на кукішках дзве дзяўчынкі і гулялі «ў хату». Яны гатавалі на вялікіх кавалках цэглы пернікі з глею, а трэцяя, ўзняўшыся на дыбачкі, асколкам цагліны малявала на шчыльнай бетоннай шарасці паркана акно і дзверы.

## КЛАС УТРОХ

Зачыніўшы лядашчыя, з мыльным шклом дзверы пад'езда, я ўбачыў невялікі, як здавалася адсюль, будынак сваёй школы. Ён замыкаў перспектыву новых пяціпавярховых камяніц, прарэзаную шырокай, гладка заасфальтаванай вуліцай. Было цёмна на гэты не вельмі позні час. Дробная імжа завісала ў паветры.

Ужо трэці раз я ішоў у школу (не як звычайна раніцай, а ўвечары) на рэпетыцыю драматычнага гуртка. Мяне ўсё бянтэжыла, што я іду без ранца, сціскаючы ў руцэ адно толькі бязважкую трубачку пластыкавай папкі з тэкстамі роляў.

Дамы засталіся ззаду, уздымаўся будынак школы. Калі я трапіў паміж вынесеных далёка наперад скрыдлаў, у адным з якіх мясцілася спартыўная зала, а ў другім — сталовая, школа страціла суцэльнасць. Яна ўспрымалася радамі пагаслых акон, плоскасцямі бясколерных

муроў, раскрэсленых чорнымі паскамі карнізаў. Я, з намаганнем пераадольваючы спружыну, прыадчыніў вялізныя парадныя дзверы, старанна выцер ногі і другімі, падпёртымі швабрай, трапіў у вестыбюль. Паміж калон за пісьмовым сталом, асветленым лямпачкай, сядзела вахцёрка. Мы ніколі не віталіся днём, не віталіся, сустрэўшыся на вуліцы, але зараз я голасна даў «добры вечар». «Вечар» вароніным «кар!» заляскаў па пустым вестыбюлі. Вахцёрка, можа, і заўважыла мяне раней, але толькі зараз адарвалася ад цыравання панчохі, узняла вочы і сказала:

— Добры. Нешта ты рана, з вашых яшчэ нікога няма.

— Я знарок раней: ролю трэба падвучыць, дома не засяродзішся,— не без гонару схлусіў я.

— Ну добра, праходзь.

Я пайшоў вылінялым у дзяжурным асвятленні калідорам.

Калі толькі пачынаў вучыцца, у нашай школе існавала мноства сходаў. Адны праразалі будынак наскрозь, іншыя вялі толькі з аднаго паверха на доўгія пераходы, можна было трапіць адкуль хочаш і куды хочаш амаль па простай лініі. Але за шэсць гадоў, што я адвучыўся тут, наш майстравіты загадчык гаспадаркі паступова паўразаў у дзверы замкі, парабіў перагародкі, усталяваўшы безліч баковак, дзе захоўваў рыдлёўкі, граблі, мётлы і розныя рэчы. За ім і некаторыя настаўнікі, кіраўнікі гурткоў адхапілі маршы. У школе засталося толькі двое скразных сходаў: парадныя, з замацаванымі ў парэнчах драўлянымі калкамі, і бакавыя — на выпадак пажару.

У адной з баковак мясціўся наш драматычны гурток, якім кіраваў выкладчык мовы і літаратуры Вацлаў Антонавіч. Пра яго сярод вучняў казалі, нібыта гадоў з дзесяць таму ён яшчэ іграў у тэатры, але потым зламаў нагу. Яна ніяк не зрасталася, і, зборьшага ачуняўшы, на сцэну Вацлаў Антонавіч не вярнуўся, пайшоў выкладаць у школу. Хутчэй за ўсё было проста наша дзіцячае тлумачэнне яго кульгавасці і адмысловага кійка, да якога больш пасавала назва «стэк». Прынамсі, гаворак гэтых настаўнік не спыняў, але і не падтрымліваў. Заняткі праводзіў цікава, часам чытаў на памяць вершы і ўрыўкі апавяданняў ненатуральна гучным акцёрскім голасам. Кожны год ён набіраў вучняў у драматычны гурток, ставіў адзін-два кароткія спектаклі (заўсёды гэта былі яго ўласныя інсцэніроўкі апавяданняў, казак), працаваў з гурткоўцамі да летніх канікулаў, а з верасня набіраў іншых.

Зараз мы займаліся там утрох: я (ніколі не думаў пра тэатр, але, калі перад урокам Вацлаў Антонавіч спытаў, хто жадае займацца ў гуртку, а ўсе як і не пачулі, першы ўзняў руку), Артур (лепшы вучань

нашага класа) і Сяргей, які зайздросціў нават маім чацвёркам, але меў перад намі перавагу, бо да гэтага два гады займаўся ў тэатральнай студыі Палаца піянераў, і таму глядзеў на нас, як прафесіянал на аматараў. Усе мы вучыліся ў адным класе, а Вацлаў Антонавіч з першага заходу набіраў колькі трэба было вучняў і больш нікога не заахвочваў.

На знаёмых дзвярах з металічнай маскай, адна палова якой усміхалася, а другая сумавала, вісеў замок. У канцы доўгага, нядаўна памытага калідора я завярнуў у свой клас. Там было цёмна, але вочы хутка прызвычаіліся. Я ўбачыў не толькі вокны, але і тры рады сталоў, пустыя, пакінутыя абы-як крэслы, дошку з рэшткамі напісанага: адно, што выразна чыталася на ёй, гэта сённяшняя дата. Я адсунуў крэсла настаўніка з напісаным белай фарбай інвентарным нумарам і сеў. Раней мне гэта месца здавалася самым трывалым ва ўсім класе, але зараз я адчуў пад сабой хісткае крэсла, і настаўніцкі стол выдаваў не такім ужо і высокім, калі сядзець за ім. Я паглядзеў туды, дзе буду сам падчас заўтрашняй кантрольнай, і жахнуўся: як добра адсюль відаць, проста немагчыма не запрыкмеціць на каленях падручнік, з якога я збіраўся спісваць! Але потым я нагадаў сабе папярэднія кантрольныя і супакоіўся.

У калідоры пачуліся галасы, і хутка ў клас увайшлі Сяргей з Артурам. Мы, як дарослыя, прывіталіся за руку. Артур запаліў святло.

— Ну як, Янка? — спытаў ён мяне.— Падрыхтаваўся да кантрольнай?

Я вытрымаў паўзу.

— Можа, і горш, чым ты, але з мяне хопіць.

— З цябе хапіла б зусім не рыхтавацца,— махнуў рукой Артур.— Галоўнае, каб тваёй падрыхтоўкі хапіла настаўніцы. А я, можаце верыць, можаце не, нават у падручнікі не зазірнуў. І так усё ведаю.

— Пра што гэта ты? Няўжо заўтра кантрольная? — здзівіўся Сяргей.

— І першым урокам. Добра ты жывеш,— сказаў Артур, расцякаючыся па сваім месцы за першым сталом,— нават пра матэматыку не памятаеш.

— Вось дык так! А можа, я да цябе заўтра сяду, твая ж суседка не прыйдзе, хворая?

— Ды ўжо прапасці не дам, карыстайся, пакуль я паблажлівы. Толькі матэматычка можа рассадзіць.

— Не рассадзіць,— супакоіў Сяргей.— Яна любіць, калі такія, як я, за першымі сталамі сядзяць.

— І ты, Янка, калі што, кінь мне пісульку з прыкладам,— расшчодрыўся Артур.— Я іх, як семкі. Вось тут на ўсіх хопіць,— ён паляпаў спачатку па партфелі, а потым па лбе,— на ўвесь клас і трохі болей.

Мы замаўчалі, і ў цішы выразна пачулася, як стукае па далёкіх прыступках «стэк» кіраўніка.

— Рушым, хлопцы,— сказаў я,— шэф ідзе.

Мы выстраіліся перад дзвярамі гуртка. Неўзабаве ў дзвярным праёме азначыўся Вацлаў Антонавіч. Правай рукой ён сціскаў ільвіную пысу разнога навершша кія, а ў левай трымаў партфель і капялюш. Ён няспешна наблізіўся да нас і толькі тады павітаўся:

— Добры вечар, хлопцы.

Таксама няспешна адставіў убок хворую нагу, прытуліў «стэк» да сцяны, выняў з кішэні палітона ключ і працягнуў мне.

— Адчыняй, Янка.

— Распранайцеся, хлопцы,— кінуў ён, ўвайшоўшы за намі.

Мы борзда паскідалі свае курткі, але настаўнік здымаць свой палітон не спяшаўся.

— Ключ хай застанецца на сёння ў вас. Як пойдзеце, аддасце вахцёрцы,— сказаў Вацлаў Антонавіч, гледзячы паўз нас у акно.— Калі жадаеце, ідзіце зараз дадому, а калі настрой у вас сур'ёзны, заставайцеся. Паспрабуйце самі размеркаваць ролі ў казцы, што я даў у той раз; спадзяюся, прачыталі, і парэпеціруйце трохі. Сяргей вам дапаможа, а мне тэрмінова дамоў трэба.— Ён, так і не зірнуўшы на нас, спытаў: — Дык што, пакідаць ключ?

Я паглядзеў на Артура, Артур на мяне, а потым абодва разам мы паглядзелі на Сяргея, маўляў, што ў такіх выпадках робяць у тэатры?

— Так,— адказаў той.

— Ну, то добра,— суцешыўся Вацлаў Антонавіч.— Тады трымайце яшчэ,— ён расшпіліў партфель і паклаў перад намі на стол трохі сплясканую кардонную карону, абклееную станіёлем.— Гэта для караля. Каўпак, пашыты з абрэзкаў штучнага футра,— для мужыка. Кампактны дыяпраектар, некалькі слайдаў у рамках, каляровыя шкельцы — таму, хто будзе паказваць палацы, удаваць пажар. Як скончыце, паскладайце ўсё ў шафу і не забудзьцеся замкнуць дзверы. Праз дзень сустрэнемся зноў.

І ён пайшоў, кульгаючы на правую нагу.

— Да пабачэння! — крыкнулі мы наўздагон, а потым глядзелі з акна, як Вацлаў Антонавіч адчыняў дзверы машыны і выязджаў са школьнага двара на вуліцу.

Вярнуўшыся да стала, на якім ляжалі карона, каўпак і дыяпраектар, Сяргей прапанаваў:

— Ну што, выкінем на пальцах?

— Цур, карона мая,— крыкнуў Артур.

— Бяру фільмаскоп,— сказаў я.

— Хоць так і не па-сяброўску,— паківаў галавою Сяргей,— аднак я згодны,— і насунуў футравы каўпак.

Кожны заняўся сваім набыткам, але скоса пазіраў на іншых. Сяргей расчэсваў поўсць на каўпаку. Артур круціўся каля люстра. Я шчоўкнуў рамкай дыяпраектара, матэрыялізуючы на жаўтаватай сцяне блікавыя выявы шыкоўных палацаў. Нарэшце Сяргей узяў тэкст казкі, уважліва прагледзеў першую старонку і звярнуўся да нас:

— Пачатак трэба пакуль што прапусціць. Там, дзе мужык знаходзіць чарадзейны каўпак, які толькі адзенеш на галаву, дык адразу можаш яму загадваць, што пажадаеш, праца для мяне аднаго. Пачнем вось адсюль,— ён падкрэсліў пазногцем радок,— як кароль выклікае мужыка і загадвае яму будаваць палацы. Ты, Артур, садзіся на самым версе сходаў, а ты, Янка, падрыхтуй для пачатку самы сціплы палац.

Сяргей скамячыў каўпак і размашыстымі крокамі падаўся да караля. Прыступкі за тры ён схіліўся ў паклоне, нізкім, але стрыманым:

— Дзень добры, ваша каралеўская моц!

— Даведаўся я,— Артур сурова звёў бровы і ўзяўся ў бокі,— што ёсць у цябе, мужыка, чарадзейны каўпак, якога не мае ніводны кароль, і выконвае ён усе твае загады, а іншых не слухае.

— Так, ваша каралеўская моц!

Артур раптам сумеўся, бровы яго апусціліся, ён некалькі разоў паспрабаваў пачаць рэпліку, нарэшце бязгучна вылаяўся, разгарнуў тэкст і прачытаў.

— Дык загадай яму пабудаваць палац, прыгажэйшы за гэты.

Сяргей павольна выпрастаўся, шырока рассунуў ногі, надзеў каўпак, крыкнуў: «Каўпак, будуй палац!» — і зірнуў на мяне.

Я паднёс да аб'ектыва зялёнае шкельца, за ім чырвонае, а потым высвеціў на сцяне невялікі палац.

— Сяргей, як ты стаіш перад каралём? — сказаў Артур усё яшчэ тэатральным голасам.— Спіну выпрастаў, галаву задраў. Хоць бы спусціўся прыступкі на тры ніжэй.

Сяргей паблажліва ўсміхнуўся, сеў на сходах побач з Артурам.

— Нічога чалавек не разумее. Чуеш, Янка, выдатнік, а не разумее. Няхай ты сабе і кароль, а я мужык, але ты толькі загадваеш, сам

зрабіць нічога не ўмееш, а я ўсё магу. Ты ад мяне залежыш, таму я і стаю, выпрастаўшыся, галаву ўверх задзіраю.

Артур падумаў трохі, зняў карону, легкаважна пакруціў яе на пальцы і аддаў Сяргею:

— Нічога не выходзіць у мяне з каралём, ды і слоў у яго багата, а ў цябе ўсё адно: «Добры дзень, ваша каралеўская моц! Так, ваша каралеўская моц!» Давай лепей мне каўпак, я мужыком буду.

Сяргей памарудзіў, але каўпак аддаў і надзеў карону. Ён важна рассеўся на верхняй прыступцы, узмахнуў рукамі — узнікла нябачная мантыя.

Артур нетаропка адолеў сходы, стаў побач з каралём:

— Добры дзень!

Сяргей не зварухнуўся.

— Ваша каралеўская моц,— дадаў цераз сілу Артур.

— Даведаўся я,— расцягваў словы Сяргей, нібыта рабіў усяму свету вялікую паслугу сваім існаваннем.

Артур надзеў каўпак:

— А я, можа, не жадаю будаваць табе палац. Загадаю зараз зрабіць мяне каралём! Ану, каўпак...

Сяргей абурыўся:

— Такога ў ролях няма, там што напісана?!. Мужык надзеў каўпак і крычыць: «Будуй палац!», а «Каўпак, зрабі мяне каралём!» — такога там няма.

Артур скрывіў твар:

— А калі я ўсё роўна загадаю?

— Давай не дуры,— сказаў я,— нічога добрага з гэтага не выйдзе, проста страціў бы ты каўпак: ён жа толькі мужыка слухае.

Артур падціснуў вусны:

— Кажы, кажы, слайды перакідваць і дурань можа. Але хай павашаму будзе: па ролях дык па ролях.

Я не адказаў нічога.

Мы ледзь давялі сцэну да канца. Артур амаль усё чытаў з паперкі і да таго ж вельмі вяла. Сяргей спачатку яшчэ намагаўся ўратаваць рэпетыцыю, але потым і сам забубніў манатонныя рэплікі. Нарэшце ён махнуў рукой, сказаў: «Хопіць!» — і зняў карону.

Артур моўчкі надзяваў куртку, Сяргей намагаўся не глядзець у яго бок. Я ўсё назіраў за імі, і раптам мне стала смешна.

— Слухайце, хлопцы, давайце пасварымся,— сказаў я.

— Як гэта? — Артур затрымаў рукаў.

— Пасварымся так, каб нам гэтая казка зусім абрыдла, а я тады для вас напішу новую. Там усе ролі будуць добрыя.

— А зможаш да наступнага разу? — засумняваўся Сяргей.

— Анягож не! Сачыненне ж у вершах я за адзін вечар напісаў, памятаеце?

— Згода, давай пяць! - Сяргей моцна пацiснуў мне руку.

— А сам ты кім у ёй будзеш? - спытаў Артур.

— Аўтарам.

Здранцвенне знікла. Мы хуценька схавалі усе ў шафу, замкнулі дзверы, пабеглі пустымі сходамі, аддалі ключ вахцёрцы і выскачылі на вуліцу.

Кожнаму з нас трэба было ісці ў свой бок, але разыходзіцца не хацелася. Сяргей доўга лазіў па кішэнях, нарэшце выцягнуў яблык і аддаў мне:

— Бяры, частуйся.

Артур спачатку расшпіліў партфель, памарудзіў трохі, потым зашпіліў зноў.

Мы развіталіся і пайшлі кожны ў свой бок. Я раз-пораз азіраўся — школа ўсё меншала, а мой дом наперадзе рабіўся большы і большы.

## ІНФАНТЫЛІЗМ ПАВОДЛЕ ДЗЁННІКА

31.05.70.

Вечар. Пачынаю дзённік.

«Я нарадзіўся ў 1958 годзе». Не, так пачынаць нельга. Гэты самы сказ я напішу тады, калі пайду на пенсію. Трэба запісваць толькі тое, што змяняецца.

Мне зараз дванаццаць год. На сённяшні дзень мой рост сто сорак пяць сантыметраў, вага — сорак кілаграмаў, валасы доўгія, іх колерам і колерам вачэй, калі пажадаю, пацікаўлюся ў люстры.

Што зменіцца ў наступным? Вопратка? Дык на яе трэба заводзіць асобны сшытак. Сябры? Іх і зараз, лічы, што няма, такіх, вартых гэтага дзённіка, калі з'явяцца, тады і ўпішу. Зменяцца думкі — іх і буду занатоўваць. Мае думкі — гэта і ёсць я, раней здавалася — учынкі, а цяпер ведаю: мае думкі — гэта я для самога сябе, а ўчынкі — гэта я для іншых. Думкі трэба занатоўваць, каб яны не зніклі, як знікаюць апошнім часам мае сны. Прачынаюся і разумею, што толькі зараз сасніў нешта значнае, цікавае, але што менавіта, хаця б якую дробязь успомніць — не магу.

Але ж нават сон — ён жа таксама быў.

Ужо ноч, трэба класціся спаць. І так бацькі думаюць, што я з гадзіну як сплю, а мне ўсё адно цяпер, дзень ці ноч, раніцай не

ўставаць — вакацыі, хаця што з тых вакацый, калі нікуды не едзеш, а сядзіш дома. Толькі адно добра — спі, колькі можаш, і глядзі, глядзі каляровыя сны.

01.06.70.

Пішу з раніцы, адзінаццаць гадзін. Мо для каго другога і сярэдзіна дня, а я толькі прачнуўся, так што - раніца. Нарэшце мой незвычайны сон не забыўся. Хаця не, сон звычайны. Незвычайна тое, што было ўсярэдзіне, і нельга зразумець, ці быў то другі сон, ці то была ява. Напэўна, не прысніцца такое, каб убачыць свой пакой, як ёсць, самым сапраўдным, можна рукой да сцяны дакрануцца, а у ім — каго ніколі на вочы не бачыў. Спачатку мне снілася нешта дурное, але шалёна каляровае, і раптам, нават не памятаю, адкрыў я вочы ці не, мой сон знік і я ўбачыў свой пакой: што ён мне не сніўся, я ўпэўнены, такіх рэальных сноў не бывае. Але побач з маім ложкам стаяла жанчына ў кароне, жанчына, якой я раней, здаецца, не ведаў, толькі ўсё адно твар яе выдаваў знаёмым, яна няспешна прыклала палец

да вуснаў і прашаптала: «Тсс... Спі...»

Я не паспеў нічога нават падумаць, не тое што спужацца. І не заўважыў, як заснуў зноў. А можа, я спаў, спаў, спаў, калі глядзеў на жанчыну у кароне, але ж не, вельмі гэта было падобна да явы. Так не бывае, каб пакой быў сапраўдны, а ў ім адбываліся падзеі сну. Або адно, або другое.

Потым мне снілася тое ж, што і раней, такое ж каляровае і дурное. Прачнуўся па-сапраўднаму, калі свяціла сонца, бацькі пайшлі ўжо на працу. Юлькі сеў за стол, каб зрабіць запіс у дзённіку, каляровы сон імгненна забыўся, а засталася ў памяці каранаваная жанчына, што прыціснула палец да вуснаў. «Тсс... Спі...»

І прымроіцца ж такое, цікава, да чаго тут што? Трэба разабрацца. Ды не толькі з гэтай мрояй, а хаця б і з тым, нашто я наогул пішу дзённік. Што сюды запісваць, я прыдумаў, але нашто?

Дарэчы, у мяне і да гэтага быў дзённік, нават не адзін. Ажно пяць сшыткаў спісаў, і мне спісалі. Штогод па дзённіку, па аднаму на кожны клас. Але тыя дзённікі для настаўнікаў, на тое, каб яны мелі ў што мне адзнакі ставіць. А ў гэтым сваім дзённіку я буду другім адзнакі ставіць, і другім, і сабе самому.

Правільна, кожны дзённік вядзецца для таго, хто ў ім адзнакі ставіць.

Так што гэты дзённік я вяду толькі для сябе. А каму ён яшчэ патрэбны? Мо той жанчыне ў кароне?

Хто з маіх знаёмых піша дзённік? Як паглядзіш — ніхто. А можа, і ўсе пішуць, толькі не аказваюцца.

Пішу ўвечары. Сённяшні сон так і не разгадаў, што ён і да чаго, хаця сёе-тое акрэсліваецца, толькі не так, каб магчыма было гэта выказаць, яшчэ ўсё расплываецца, але нейкія абрысы прасочваюцца. Трэба больш пра яго думаць, і тады, можа, зноў прымроіцца сон, што ўдакладніць першы, а можа, і наадварот, думаць пра яго не трэба, і новы сон прыйдзе сам па сабе.

02.06.70.

Пішу з раніцы. Сённяшні сон таксама незвычайны і, як папярэдні, пакуль што не мае разгадкі. Але ж ён як працяг першага.

Было тое самае, што і ўчора: знік каляровы сон, і адразу за ім — мой пакой у ліхтарным святле. Каля ложка нікога, а ля дзвярэй двое аднолькава апранутых мужчын з аўтаматамі дзіўнай канструкцыі, адзін з незнаёмцаў размінаў незапаленую цыгарэту. А потым зноў абрыў і зноў працяг каляровага сну.

Паспрабую не думаць пра сны, хай яны адстояцца ў думках, мо тады разгадка і з'явіцца сама па сабе. Лепш паразважаю сёння на вольныя тэмы.

Пішу ўвечары. Вольныя тэмы — гэта вельмі цікава. Сёння сачыў за рэчамі. У іх, як і ў людзей, як і ў мяне самога, два жыцці. Адно — што бачаць людзі, бачу я, і другое — якім жывуць рэчы, калі за імі ніхто не назірае. Пра першае жыццё нешта цікавае прыдумаць цяжка, але пра другое... Хто можа адказаць на пытанне: «Што робяць рэчы ў пакоі, калі там няма людзей?» Дакладна — ніхто. Можа, яны наогул знікаюць? А можа, толькі трацяць колеры? І наогул, ці існуюць колеры там, дзе няма людзей?

Што такое колер?

Дрэва зялёнае, кажу я. Зялёнае, згаджаецца маці.

Але магчыма, што бачыць яна дрэва чырвоным, толькі называе зялёным. Бо ў дзяцінстве яна спытала: «Якое дрэва?» — «Зялёнае»,- адказалі ёй.

І ўсе мы бачым розныя колеры, толькі называем іх аднолькава, таму і гаворым, што свет аднолькавы для ўсіх.

Добра, калі такое з аднымі колерамі. А мо хто які і замест людзей бачыць пачвар, пакажы яму маіх — ён залямантуе і немаведама што наробіць ад жаху. Так і добра, што ніхто ў мае вочы не залезе і не гляне на свет знутры мяне.

Але самае цікавае не ў рэчах, а у людзях. Што робіць чалавек, які зайшоў за рог, і яго ніхто не бачыць? Да таго ішоў прыстойна, зайшоў

за рог, азірнуўся - ніхто не бачыць, падскочыў, як казёл, мэкнуў і партфелем у паветры закруціў. Тут і я ўжо за рог зайшоў, а ён зноў прыстойны, як бы нічога і ніколі. А чаму так? Бо калі чалавек сам-насам яго думкі і ўчынкі супадаюць. Так сачыў у думках шмат за кім, у асноўным са знаёмых, атрымлівалася вельмі смешна.

Аднак позна, трэба класціся спаць. Цікава, а што будзе заўтра?

03.06.70.

Пішу з раніцы. З'явілася разгадка. Вось мой новы каляровы сон.

Я ішоў анфіладай, дзверы адчыняліся самі, шыкоўныя залы змянялі адна адну, карціны, габелены, каміны — усё адлюстроўвалася ў нацёртым да бляску паркеце. На мне была мая звычайная вопратка, у руках спартыўная валіска з рапірай. Я ішоў, пакуль перада мной не паўсталі вялікія разныя дзверы. Я стаяў і чакаў, калі яны адчыняцца самі, нарэшце не вытрываў і, з цяжкасцю пасоўваючы перад сабой дзве высокія, да столі, створкі, падаўся наперад. За дзвярыма быў змрок, толькі злёгку паблісквала ў глыбіні вялізнай залы пазалота.

Святло абрынулася знянацку. Перада мной былі сходы, засланыя чырвоным дываном. У канцы іх стаялі тры троны. На адным з іх сядзела жанчына ў кароне, тая самая, што прыціскала пазаўчора палец да вуснаў над маім ложкам, на ёй была падбітая белым футрам мантыя. Жанчына ўстала, працягнула да мяне рукі.

— Я чакала, мы ведалі, што ты прыйдзеш заўтра.

Вось твой трон, ідзі.

— Мама,— крыкнуў я і пабег па сходах. Але раптоўна святло згасла, сходы зніклі з-пад ног, і я абрынуўся, адно не ўніз. Я дакладна памятаю, што ляцеў уверх, вышэй і вышэй.

Я зразумеў: гэты сон — адказ на папярэднія, яны не сніліся мне, тыя два, а адбываліся папраўдзе.

Я — каралеўскі сын, мая сапраўдная маці — каралева, бо хто яшчэ мае права насіць карону? Яна прыходзіла да мяне ўночы паглядзець, а я прачнуўся і заўважыў яе. Мае цяперашнія бацькі проста добрыя людзі. Мяне ім толькі аддалі на выхаванне, каб я, перш чым зрабіцца каралём, зведаў другое жыццё. Тыя двое з аўтаматамі — мае целаахоўнікі, яны, напэўна, і ўдзень незаўважна ходзяць за мной. Увесь горад спецыяльна збудаваны для мяне. Яго жыхары ўдаюць, што жывуць сваім жыццём, толькі калі я сачу за імі. Праходзяць ад рога да рога з незалежным выглядам, а потым спыняюцца, бо ім няма куды ісці ў гэтым горадзе, збудаваным для мяне. Тут усё зроблена, каб пераканаць, што я такі ж звычайны чалавек, як і астатнія. Напэўна, збудаваць зусім сапраўдны горад было цяжка, і таму вялікія дамы на

далягладзе хутчэй за ўсё не дамы, а толькі адны сцены з вокнамі, за якімі падвешаны лямпачкі, што запальваюцца па вечарах. Адно цікава: калі мне адкрыюць, што я каралеўскі сын? Калі мне будзе васемнаццаць? Або калі я скончу школу? Інстытут? Калі зраблюся чэмпіёнам па фехтаванні? А можа, ні тады, ні тады і ні тады? Будуць прыходзіць тэрміны, прызначаныя мной самім, а штучнае жыццё будзе працягвацца.

Як бы зрабіў я сам на месцы караля і каралевы? Трэба падумаць. Я сказаў бы так: «Калі сам зразумее, што ён наш сын, тады і будзе ім». Дык што. Выйсці зараз на вуліцу і закрычаць: «Я ведаю, хто мае бацькі! Я ведаю, што я каралеўскі сын!» Нешта не тое. Не яны ж вырашаюць мой лес, людзі, што ходзяць па вуліцы. Я сам павінен прыйсці да сваіх бацькоў, неяк знікнуць з горада, знайсці каралеўскі палац, прайсці анфіладай і ў апошняй, троннай зале падысці да іх толькі там, толькі сказаць. «Я ваш сын». Трэба сёння абдумаць: нейкі знак, напамінак мне павінны былі пакінуць.

Пішу ўвечары. Напамінак знайшоў.

Насупраць майго дома прыпынак загараднага аутобуса на Круляўшчыну. А дзе ж яшчэ жыць каралям? Толькі ў Круляўшчыне. Заўтра з раніцы напішу запіску цяперашнім бацькам і пайду на аўтобус, з сабой вазьму рапіру, адзінае з каралеўскага жыцця, што маю зараз.

04.06.70.

Я зноў дома. Толькі што спаліў ліст, які пакідаў бацькам. Я паспеў вярнуцца раней за іх. Можна было проста выкінуць, але я спаліў, агонь — заўсёды ўрачыстасць. Рапіра зноў вісіць над крэслам.

Аўтобус на Круляўшчыну ішоў амаль пусты, я сядзеў на заднім сядзенні і трымаў на каленях спартыўную валіску з рапірай, што тырчэла і пагойдвалася, нібы антэна. Я глядзеў, як знікае горад. Нарэшце аўтобус звярнуў з шашы і пакалдыбаўся вясковай дарогай. За намі, як шлейф, цягнуўся ўзняты ў паветра пыл. Ён прасоўваўся скрозь шчыліны ў аўтобус, ападаў на сядзенні. Чым далей ад горада, тым больш незвычайнымі рабіліся краявіды. Дамы меншалі, і буйнелі дрэвы. Машыны трапляліся зрэдку, усё больш грузавыя і марудныя. Людзі трапляліся яшчэ радзей, іх вопратка была дзіўная. Здавалася, што жыццё там спынілася, толькі мой аўтобус яшчэ рухаўся, і то па інерцыі.

Нарэшце мы мінулі шыльду «Круляўшчына» і спыніліся на невялікай пукатай плошчы, ледзь акрэсленай драўлянымі дамкамі. Вадзіцель абтрос пыл з папкі і сказаў: «Прыехалі».

Я сышоў на пляцоўку. Доўга азіраўся па баках. Круляўшчына як вымерла, толькі пад шчарбатай паветкай аўтастанцыі сядзела на лаўцы старая ў чорным адзенні.

— Выбачайце,— нарэшце спытаў я,— дзе тут каралеўскі палац?

— Каралеўскі? — перапытала старая.— Не ведаю, мо ён і каралеўскі, а палац за могілкамі. Ідзі, хлопча, далей, там і пабачыш. А нашто табе?

— Дзякуй.— Я пайшоў, падэшвы правальваліся ў пыл. Я ішоў і ўвесь час маліў, каб ніколі не скончыўся дашчаны паркан уздоўж дарогі. Калі пачаліся могілкі, маліў, каб не скончыліся яны, каб бясконцае было чаргаванне незнаёмых, святочных твараў на аднолькавых сівых бетонных помніках. Я баяўся ўбачыць палац, бо ведаў, што ніколі не будзе ён такі, як у маіх снах, што такім, які я ўбачыў яго цяпер, ён застанецца назаўжды.

Адразу пада мной было возера, і над возерам, над высачэзнымі дрэвамі парку быў ён, узведзены на стромым насыпе палац, прыцэнены гафтаванай аркадай.

Я спусціўся з адхону, пабег берагам возера. Палац знік у вершалінах дрэў. Нідзе не было бачна сцежак, і высокая трава пачыналася ад самай вады. Мне здавалася, што я бягу на месцы і толькі металічны дыск возера павольна паварочваецца, набліжае да мяне ўрослую травой парадную паркавую лесвіцу. Задыханы, я бег па скрышаных прыступках да высачэзнай аркі. У мёртвым двары палаца бязгучна праносіўся вецер. Ён выгінаў дрэўцы, што раслі на панішчаных карнізах, пад пустымі, без шыбін вокнамі. У траве пад калонамі блішчэлі асколкі зялёнага шкла. Кавалкі балюстрады ляжалі на каменных плітах перад расчыненымі дзвярамі ўвахода.

Я пераступіў цераз балясіну і зайшоў у палац. Нада мной у вышыні праляталі наўскос аблокі, закрэсленыя рэбрамі кроквaў. Перакрыццяў не існавала, чарнелі толькі тры рады адтулін пад бэлькі, сцены між імі яшчэ захоўвалі розную афарбоўку, сваю на кожны паверх. У былых пакоях адзін пад адным яшчэ трымаліся каміны. Над першым у медальёне была выява мужчыны з доўгімі валасамі, што сцякалі на плечы з-пад кароны, на другім паверсе камін быў трохі меншы, а над ім, зноў у медальёне,— жанчына, таксама ў кароне. І ўжо ў вышыні трэцяга паверха, настолькі высока, што не адчувалася яго велічыня, трымаўся трэці камін. Над ім не было выявы чалавека, былі толькі карона і рапіра.

Я стаяў і глядзеў то на першы, то на другі, а найболей на трэці камін, глядзеў на птушак, што крэслілі кругі між сцен і раптам выляталі між кроквaў у неба. Потым я выйшаў з палаца, старанна

зачыніў дзверы і прываліў іх балясінай. Зваротная дарога не запомнілася.

Калі вярнуўся дадому, першым чынам спаліў запіску і білеты на аўтобус, павесіў рапіру над крэслам і сеў пісаць дзённік.

## СНЕГ У ПАДАРУНАК

Нос лодкі глыбока ўбіўся ў белы гарачы пясок. Чорная смала, якой былі заліты барты і дно, высахла і адлушчвалася, калі падчапіць яе трэскай. На лодцы сядзеў хлопчык і глядзеў на ваду. Зіхатлівыя хвалі, цёплыя і празрыста-зялёныя, ціхенька плёскаліся ля ног. Павольна пагойдваючыся на хвалях, лодка паплыла ад берага. Хлопчык глядзеў у празрыстую глыбіню, дзе знікалі пругкія чырвоныя сцяблінь гарлачыкаў, дзе між разлапістай травы, млява варушачы плаўнікамі, стаялі вялікія цёмна-свінцовыя рыбы. Белыя шкляныя бурбалкі ўзнімаліся з глыбіні і прападалі, ледзь дакрануўшыся да бліскучай паверхні возера, да белых адбіткаў аблокаў.

Лодка плыла і плыла.

Ён азірнуўся на бераг. Там — далёка, на белай стужцы пяску,— стаялі людзі: маці ў сіняй сукенцы, баба з дзедам і бацька. Яны гукалі, але што — разабраць было немагчыма, так далёка бераг. Вакол вада. Чорная глыбіня варушыцца, цяжка хістаючы лодку. Жах апанаваў хлопчыка.

— Мама! Мамачка! — закрычаў ён.— Куды я плыву? Мамачка!

Ён расплюшчыў вочы. Шэрае каламутнае святло напаўняла пакой. Ля ложка сядзеў дзед, паклаўшы шурпатую далонь на яго лоб.

— Ну чаго ты, дзіцятка? Прысніў што благое? — 66

спытаў стары.— Вось выпі малака з мёдам, а то кашляў усю ноч.

Дзед прыўзняў яго. Паправіў падушку і пасадзіў, захутаўшы коўдрай. Потым падаў белы ў блакітных кветках гарачы кубак.

— Дзед, а калі мама прыедзе? — спытаў, крыху супакоіўшыся, хлопчык.

— Прыедзе. Ты пі малако, а то астыне.

— Не, ты скажы, калі яна прыедзе.

— Баба табе бліноў напякла, мо паясі?

— Не. Ты скажы, калі мама прыедзе.

— Прыедзе. Вось падмерзне дарога, выпадзе снег — і прыедзе.

— А калі снег выпадзе?

Хлопчык выпіў малака, пагаварыў з дзедам і супакоіўся.

Дзед падняўся і выйшаў у другі пакой. Грукнулі дзверы, і ў хаце зрабілася ціха. Седзячы на ложку, хлопчык глядзеў у вакно. Дзень быў шэры і ветраны. Кроплі дажджу беглі па шыбах і закрэслівалі сад, што хістаўся ад ветру, голы і набрынялы дажджом. Насупраць акна, на верхавіне яблыні, сядзела мокрая і непрыгожая варона. Дзюба яе адкрывалася, і чуўся хрыпаты крык: «Кар-ра! Кар-ра...»

Па вуліцы, крэкчучы і раскідваючы карычневую гразь, праехаў сіні трактар і пацягнуў за сабой вялікі іржавы ліст жалеза. На тым месцы, дзе ехаў трактар, яшчэ некалькі хвілін вісеў чорны дым, павольна знікаючы разам з гулам трактара.

Хлопчык успомніў, як два дні назад бацькі прывезлі яго ў вёску да дзеда з бабай. Успомніў, што яны паабяцалі забраць яго на дзень нараджэння дахаты ў горад. Да дня нараджэння засталося тры дні, а ніхто не прыехаў. Думаць пра тое, што па яго не прыедуць, не хацелася. Таму ён пачаў лічыць бліскучыя шышкі, што ўпрыгожвалі ложак. Некалькі разоў пачынаў і збіваўся, але гэта хутка надакучыла.

Успомніўся сон. Лодка. Хістанне хваль. Белая стужка далёкага берага. Чорная, як смала, глыбіня, і ледзь бачныя постаці людзей. Ён заплакаў у цішыні і адзіноце..

Грукнулі дзверы, бразнула засланка печы, і ён пачуў, як баба размаўляе сама з сабой.

— Баба! Баба! — паклікаў ён і закашляўся.— Хадзі сюды!

— Што табе, Валодзька? Лажыся, чаго падняўся, спі.

— Баба, а калі снег выпадзе?

— Не ведаю, а што табе снег?

— Калі будзе снег, будзе мой дзень нараджэння.

— То выпадзе, не хвалюйся.

Над ложкам, у якім ён сядзеў, вісела стрэльба і пацёрты скураны раменьчык з меднай зялёна-бурай спражкаю.

— Баба, дай стрэльбу.

— Навошта Янг табе, лепш спі.

Старая паглядзела на яго. Стала на ўслончык і зняла са сцяны стрэльбу.

Валодзька спаў. Рука ляжала на гладкім вішнёвым прыкладзе. Скрозь сон ён чуў: падыходзіў дзед, кранаў лоб, папраўляў коўдру і выходзіў з пакоя.

Яму сніўся сон. Лодка плыла, ён зваў маці. Яму рабілася то холадна — і мурашкі беглі па спіне, то горача — і ён скідваў коўдру, расшпільваў гузікі на кашулі.

Калі расплюшчваў вочы, побач сядзела баба і супакойвала яго: «Спі ці, можа, піць хочаш?»

— Снег... Выпаў снег? — пытаўся ён, падхапіўшыся з ложка.

— Які снег? Холадна табе? Зараз кажухом накрыю.

У другой палове дня дзед хадзіў па дакторку. І хлопчык чуў, як яна зайшла ў хату і прывіталася.

— Дзе ён у вас? Зараз паглядзім.— Дакторка падышла да ложка і некалькі хвілін глядзела на хлопчыка.— Што, захварэў, салдат? Дай галаву памацаю.

Валодзька крыху спалохаўся.

— Дзед! Дзед! — пазваў ён.

Баба паклікала дзеда, і той прыйшоў, пахнучы дажджом і хлявом.

— Дзед, снег выпаў?

— Выпадзе. Можа, сёння ці заўтра.

Дакторка дастала з ружовага кардоннага футарала тэрмометр і некалькі разоў узмахнула рукой. Тэрмометр, быў халодны і непрыемна пакалваў пад пахаю. Потым хлопчык адкрыў рот і сказаў: «А-а-а».

— Высокая тэмпература. Ангіна, відаць,— сказала дакторка і выйшла ў другі пакой. Адтуль вярнулася з цёмна-зялёнай бутэлькай і маленькім кілішкам. Адкаркавала яе і наліла ў кілішак карычневай вадкасці.

— Вось выпі. Гэта смачныя лекі.

Валодзька выпіў салодка-гаркавыя лекі, што пахлі воскам і травой, і закашляўся.

— А зараз спі. Плакаць не трэба,— прамовіла дакторка, і ўсе выйшлі з пакоя.

Хлопчык чуў: дакторка дала таблеткі і растлумачыла, як іх ужываць.

— Я заўтра зайду.

— Заходзьце,— сказала баба.— Мо яблыкаў возьмеце сваім дзецям?

— Дзякую.

Дарослыя выйшлі. У хаце зноў зрабілася ціха, і хлопчык заснуў.

Мінула два дні. Валодзька піў гарбату з малінай. Піў малако з мёдам, лекі з цёмна-зялёнай бутэлькі і еў таблеткі, растоўчаныя ў лыжцы. Тэмпература знікла, прайшоў кашаль, толькі снегу ўсё не было. Ён ужо хадзіў па хаце, шоргаючы чорнымі валёнкамі. Садзіўся на канапу ля акна, падоўгу глядзеў на вуліцу, чакаючы снегу. Яшчэ раз да іх заходзіла дакторка. Мерала тэмпературу і дала новыя смачныя таблеткі-вітаміны.

Уночы ён спаў неспакойна. Прачынаўся. Слухаў, як цікаюць ходзікі, як цяжка ўздыхае дзед. І засынаў у чаканні наступнага ранняранння, якое прынясе снег.

Раніцай ён прачнуўся ад трэску дроў у печы. Расплюшчыў вочы і ўбачыў белае святло, што стаяла за завешаным акном. Адсунуў коўдру і саскочыў на падлогу. Абуўся ў валёнкі, апрануў паліто, шапку і выйшаў у сенцы. Ён чуў, як баба адкрывала скрыню ў каморы,

размаўляла сама з сабою і сварылася на ката. Ён удыхнуў халоднае паветра, што пахла яблыкамі і капустай, і абедзвюма рукамі націснуў на бліскучую і гладкую клямку. Дзверы адчыніліся, і ён выйшаў на ганак.

Ад ганка да паветкі на белым снезе чарнелі пацеркі слядоў. Дзед, па-зімоваму апрануты, складаў дровы. Валодзька глядзеў на белую чысціню снегу.

— Ну што, унук? Вось і снег выпаў. Бач, колькі
нападала за ноч.

— Дзед, а ў мяне сёння дзень нараджэння.

— Ну, то й снег табе ў падарунак.

Дзед прайшоў па снезе да хлява, адчыніў вароты і крыкнуў на карову. Павольна паварочваючыся і прынюхваючыся да паветра, карова выйшла на сярэдзіну двара. Крыху пастаяла і падалася да ганка, дзе ў клубах шэрай пары стаяў цэбар з пахам бульбы і замешанай у гарачай вадзе мукі. Карова падышла да цэбра і стала есці, выбіраючы нерастоўчаную бульбу. Яна ўздыхала і глядзела на белы заснежаны свет вільготнымі каштанавымі вачамі.

Са срэбнага ранішняга неба на зямлю падалі рэдкія буйныя сняжынкі. Яны падалі на пакатую галаву каровы з плямай-зоркай, на жоўтыя цвёрдыя рогі, на пысу ў кавалках бульбы, на доўгія загнутыя вейкі.

— Вось і зіма прыйшла,— сказаў дзед з варот хлява.— А ты не стой, ідзі ў хату, а то зноў захварэеш.

Карова скончыла есці і паважна, вялікая і чырвоная, пайшла ў хлеў. Адтуль выбег вогністы певень і, не дабегшы да сярэдзіны двара, спыніўся. Паглядзеў вакол сябе і радасна, рэзка крыкнуў. Прайшоўся па двары, пакінуўшы галінкі слядоў на белай нерушы, і ўскочыў на край цэбра. Пастукваючы дзюбаю аб драўлянае дно, ён пачаў падбіраць кавалкі бульбы, што засталіся пасля каровы, і паглядаў чорнымі кропкамі-вачамі. Выбеглі куры, і ўсё закруцілася па двары, парушаючы белую чысціню.

Яшчэ крыху пастаяўшы, хлопчык пайшоў у хату. У печы гарэў агонь, і баба стаўляла туды вялікія чорныя чыгуны.

— Баба! А на дварэ снег. Халодна.

Баба глянула на яго, быццам спыталася: «Ну і што з таго, што снег?»

І ён сказаў, па-даросламу, крыху падумаўшы:

— Як гэта што? Зіма пачалася, а ты ля печы.

Ён яшчэ колькі пасядзеў ля акна. Паглядзеў на аснежаны сад. На трактар, які, пыхкаючы чорным дымам, цягнуў стог сена. На варону,

што сядзела на верхавіне яблыні і глядзела ў двор, і падаўся у другі пакой. Там распрануўся, залез у ложак, пагладзіў вішнёвы прыклад стрэльбы і, прыціснуўшыся да цёплай сцяны печы, шчасліва і спакойна заснуў. Яму снілася поле, што пачыналася адразу за хатай, і мама, якая ішла па белай нерушы снегу, спяшаючыся да яго.

## САМАКАТ

Наш двор — між двух чатырохпавярховых дамоў. З аднаго боку, за агароджаю, якую бялілі вапнаю, быў стары парк, з другога — стаялі гаражы, складзеныя з чырвонай цэглы. У двары расло з дзесятак вялікіх клёнаў, пад якімі мясціліся альтанка, пясочніца і некалькі лавак.

Я сядзеў пад клёнамі, з якіх павольна падалі вялікія, большыя за маю далонь, лісты, і павелічальным шклом выпальваў на габляванай дошцы геаметрычны малюнак. Ля гаражоў дворнік зграбаў лістоту. Быў чуваць скрыгат жалезных грабель па асфальтаванай дарожцы.

Яркая кропля святла пакідала за сабой чорныя

крэсы, якія складаліся ва ўзор. Ад дошкі, над якой я схіліўся, пахла смалой і дымам. Была зроблена палова малюнка, калі кропка згасла. Я падняў галаву.

Перада мной стаяў Астах.

Мы вучыліся ў адным класе і жылі ў адным пад'ездзе, але не сябравалі. Са з'едлівай усмешкай ён глядзеў на малюнак і ціхенька насвістваў скрозь зубы. Кішэні яго портак і курткі, як звычайна, адтапырваліся. У нашым двары з ім ніхто не сябраваў, і мо таму ён быў на ўсіх злосны.

— Адыдзі, не засці сонца! — сказаў я.

— Самакат вырашыў зрабіць? — абыякава запытаў ён.

— Не твая справа.

— Значыць, самакат,—упэўнена абвясціў Астах і сеў на лаўку.

На кожную пару года ў нашым двары былі свае забавы. Зімой — канькі, лыжы, снежныя вежы, якія доўга будавалі і з задавальненнем разбуралі, гойсанне з гаражоў у сумёты. Калі сыходзіў снег і дворнік абразаў з клёнаў вецце, мы рабілі лукі і стрэлы, а калі ў парку падсыхала зямля і фарбавалі агароджу, гулялі ў «цок» і «гузікі». Пасля надыходзіў час футбола і ровараў, а падчас летніх канікулаў мы пачыналі ладзіць самакаты. Грукат і ляскат падшыпнікаў напаўняў двор і парк. Мы насіліся на самаробных самакатах дацямна, выкрасалі з асфальту іскры і задаволена крычалі. Дарослым гэткая забава

не падабалася. Я не памятаю, каб яны калі-небудзь дапамагалі нам рабіць самакаты, і таму нам даводзілася самім здабываць дошкі, падшыпнікі і спадзявацца толькі на ўласнае майстэрства.

— Пакажы шкельца,— сказаў Астах.

— У цябе сваіх два.

Ён зняў акуляры, падобныя да ровара, крысом курткі працёр лінзы і зноў надзеў на дзюбаваты нос.

— Пакажы, не будзь скнарай.

— На, толькі хутка,— сказаў я і падаў тоўстую,

крыху падрапаную «павелічалку».

Ён пакруціў яе на далоні, пахукаў, працёр аб калашыну, прыладзіўся і пачаў выпальваць на лаўцы літару «А».

— Добра пячэ.

— Гэта самая лепшая ў двары.

— У нашым, можа, і самая, але я ведаю, у каго ёсць і мацнейшая.

— Ты не маеш і гэткай. Давай назад!

— Слухай, а мо махнём? Ты мне шкло, а я табе падшыпнік. У цябе ж няма? - ён зірнуў мне у вочы і ўсміхнуўся.

— Дзякуй. Аддавай «павелічалку»!

— Пачакай,— ён не выпускаў шкло з рук.— Падшыпнікаў зараз не дастаць, а ў мяне есць адзін, навюткі! — з націскам на апошняе слова сказаў ён.

— А дзе я вазьму другі? Астах задумаўся, потым сказаў:

— Выменяеш на што-небудзь.

Я нічога не адказаў. Ён, відаць, адчуў мае ваганні і дадаў:

— Можа, я змагу дастаць і другі, а цяпер давай махнём.

Мне вельмі хацелася мець самакат. Астах падаў руку, я пацінуў мяккую далонь, і маё павелічальнае шкло знікла ў адтапыранай кішэні курткі.

Праз некалькі мінут Астах выйшаў з пад'езда і па-змоўніцку падаў мне навюткі, загорнуты ў навошчаную паперу падшыпнік. Я пакруціў вобад, агледзеў, ці няма дзе трэшчыны, акуратна загарнуў і, абнадзеены, з няскончаным малюнкам на дошцы падняўся дадому.

Яшчэ колькі дзён прайшло ў пошуках другога падшыпніка, але адзіным маім здабыткам быў кавалак ізаляцыйнай абалонкі ад кабелю, якую я меўся разрэзаць і насадзіць на ручкі будучага самаката. ...Я сядзеў на лаўцы і сцізорыкам перарабляў малюнак на дошцы.

— Ну, як поспехі, знайшоў падшыпнік? — падышоўшы да мяне, зацікаўлена спытаў Астах і сеў побач.

— Няма ні ў кога.

— Няўжо? Я ведаю, хто мае адзін... Добры складанчык.

— Хто аддасць падшыпнік?..

— Аддасць не аддасць, а махнуць з ім можна,— ён гаварыў і паглядаў на сцізорык.— Гэта бацькаў? — як між іншым запытаў ён.

— Не, мой уласны, а што? — Дай зірнуць.

— На, глядзі,— сказаў я і падаў яму сцізорык. Некаторы час мы сядзелі моўчкі. Астах круціў мой сцізорык і спрабаваў прыладзіць да яго ланцужок, сплецены з меднага дроту. Я глядзеў на дворніка, які зносіў лістоту ў вялікую гурбу. — Дык ты не хочаш зрабіць самакат?

— Ты ж абяцаў дастаць другі падшыпнік.

— Абяцаў. Давай складанчык, і праз паўгадзіны я прынясу падшыпнік.

— Праз паўгадзіны?

— Можа, нават хутчэй, бо ведаю, у каго ёсць.

— У каго? Пойдзем разам, і я з ім пагавару.

Астах адкрыў маленькае лязо. Перарэзаў дубчык.

Некалькі разоў шчоўкнуў спружынаю.

— Я пайду адзін, ты толькі сапсуеш усё. Лепей пачакай, і праз паўгадзіны будзеш мець падшыпнік.

Астах падхапіўся, схаваў сцізорык у кішэнь і пабег у суседні двор. З'явіўся ён нечакана, з-за маёй спіны.

— Трымай,— крыкнуў ён і бразнуў на лаўку падшыпнік у навошчанай паперы.

— Новы! — здзіўлена сказаў я.

— Ледзь дамовіўся,— адказаў Астах.

Праз два дні пад вечар я выйшаў з пад'езда з навюткім самакатам. На ручкі была насунута сіняя абалонка кабелю. Дошка, на якую станавіцца, была абабіта рыфленай гумай. Перад самаката ўпрыгожваў выразаны і расфарбаваны геаметрычны малюнак, а таксама зіхатлівая металічная лічба «1».

Я разагнаўся і ад пад'езда памчаўся да суседняга дома. Нават дворнік перастаў месці тратуар і праводзіў мяне незадаволеным позіркам. А самакат выйшаў выдатны. Колы круціліся лёгка, пыл і лістота ляцелі ў розныя бакі, руль паварочваўся як мае быць... Я ўяўляў, як буду ляцець на сваім самакаце пад гару па асфальтаванай сцяжыне ў парку.

— Дасі пакатацца? — спытаў Астах, калі я праязджаў ля альтанкі да парку.

— Сам яшчэ не наездзіўся,— адказаў я, прыпыніўшыся, каб перавесці дыханне.

— Валодзька! Валодзька! Хопіць грымець самакатам! Ідзі вячэраць! — паклікала з балкона маці.

Я падхапіў на плячо самакат і подбегам пачаў уздымацца на трэці паверх.

— Куды ты яго нясеш? Я толькі што падлогу памыла, пакінь на пляцоўцы,— сказала маці, калі я ўвайшоў у кватэру.

Мне нічога не заставалася, як пагадзіцца з ёю і хуценька павячэраць, каб зноў пайсці ў двор з новым самакатам.

Але калі я выйшаў з кватэры, самаката на пляцоўцы не было. Я збег у двор. Ля альтанкі гулялі дзве дзяўчынкі, ля гаражоў дворнік паранейшаму зносіў лістоту. Самаката не было і тут.

Я збегаў на гарышча нашага дома, потым навобмацак абышоў падвалы, агледзеў парк і суседнія двары.

— Вы не бачылі мой самакат? — звярнуўся я да дворніка.

Стары паставіў да сцяны граблі, агледзеў мяне.

— Ішоў тут адзін у акулярах і з самакатам у бок парку, але гэта было з гадзіну таму,— сказаў ён і зноў узяўся за граблі.

«Ас-тах, Ас-тах!» — вымаўляў я і бег да парку. Ля белай агароджы сядзелі дзве дзяўчынкі з букетамі кляновага лісця і гулялі ў «сакрэт». На маё пытанне, ці не бачылі Астаха, яны пераглянуліся і разам сказалі: «Сакрэт».

Калі я вяртаўся ў двор, было цёмна. У вокнах нашага дома гарэла святло. Раптам я заўважыў Астаха.

Ён шыбаваў ад гаражоў да пад'езда і раз-пораз азіраўся. Зрэдку бліскалі яго круглыя акуляры.

— Стой! Дзе мой самакат?

— Самакат?— здзіўлена спытаў ён.— Які самакат?

— Мой, той, што я зрабіў. Ты яго ўзяў, я ведаю, мне сказалі.

— А, самакат, што ты зрабіў з маіх падшыпнікаў... Не ведаю, я за ім не гляджу.

Раптам Астах павярнуўся і кінуўся ў адчыненыя дзверы пад'езда. Я паспеў схапіць яго за куртку. Ён крутнуўся, і мы разам упалі на пляцоўку першага паверха, але імгненна падхапіліся...

— Пусці! Пусці!

Раптам пад маімі нагамі захрабусцела шкло.

— Акуляры. Мае акуляры,— захныкаў ён.— Аку-ля-ры...

— Астах! Астах! — пачуўся зверху жаночы голас. Я заўважыў, што побач з растаптанымі акулярамі ляжаў мой сцізорык з медным ланцужком. Я схапіў яго і выбег на двор, да гаражоў.

...Усю ноч мяне мучыў жахлівы сон. Быццам круглыя акуляры бясконца крышыліся пад маімі абцасамі і чуўся крык Астаха: «Я нічога не бачу!..»

Прачнуўся я з думкаю, што, можа, і не ён ўзяў самакат: не бачыў жа гэтага на свае вочы і пашкадаваў, што атрымалася бойка.

Я ўзяў сцізорык, які вырашыў вярнуць Астаху, і падняўся на чацвёрты паверх. ^

У парозе стаяў Астах. Я ніколі не бачыў яго без акуляраў. Блізарукія цёмныя вочы мружыліся і глядзелі на мяне спалохана і вінавата. Белыя вейкі хутка-хутка міргалі. Мне падалося, што ён не бачыць мяне.

— Вось твой сцізорык, прабач...— сказаў я.

— Я ведаю, дзе твой самакат,— азваўся Астах.

Я працягнуў яму сцізорык. Ён стаяў нерухома і глядзеў паўз мяне.

— Самакат схаваны ў гурбе лістоты ля гаражоў, пад ламаччам.

Мы пабеглі ў двор. За рогам, ля гаражоў, гарэла вогнішча. Побач стаяў дворнік і жалезнымі граблямі падварушваў яго.

— Там самакат!— закрычаў Астах і кінуўся да агню.

— Куды ты лезеш? Адыдзі!—злосна сказаў дворнік і торкнуў у полымя граблямі.

З-пад лістоты вылецеў сноп іскраў, агонь заняўся мацней і ахапіў ламачча, што ляжала зверху.

— Самакат? Я вось сабраў усё лісце, смецце і запаліў. Трэба, каб у двары было чыста і ўпарадкавана, а не абы-як. Зіма хутка, а вы пра самакат.

Мы павярнуліся і ціха пайшлі дадому.

— Пачакайце! Мы спыніліся.

— Ведаеце, дзе мая кладоўка? Яна не зачынена, там ваш самакат. А калі будзеце грымець да ночы ў двары, сапраўды спалю. Зразумелі?

## ГАРЫШЧА

Непрыемнасці пачаліся ў Аліка пасля таго, як цёця Мая, жонка загадчыка ціра, злавіла яго на гарышчы. Яна не стала доўга разбірацца, што да чаго, а схапіла хлопца за каўнер кашулі і звяла, з гучнымі крыкамі і лаянкай на ўвесь пад'езд, на трэці паверх, у кватэру пад нумарам дваццаць адзін, дзе Алік жыў з маці.

Ён не рабіў спроб уцячы, вызваліцца, а ішоў з пачырванелым тварам і маўчаў. Гэтая яго пакорнасць, зацятае маўчанне пераканалі жыхароў пад'езда, якія збегліся на пранізлівы крык цёці Маі, у тым, што ён — вінаваты. А цёця Мая, якая злавіла хлопца з бялізнаю ў руках, і так ні хвіліны не сумнявалася, што шынель знёс Алік.

Шынель быў яшчэ амаль новы, з пагонамі, з бліскучымі ў два рады гузікамі, з цвёрдымі залацістымі пагонамі маёра. Толькі сёння, з раніцы, яна пачысціла форму і павесіла на гарышча сушыцца і праветрывацца ад вострага нафталінавага паху. Раніцай павесіла, а пад вечар шыняля як і не было. Украў, канечне ж, Алік, бо што можна рабіць на гарышчы, акрамя як нешта забароненае.

У пад'ездзе пачалі казаць, што трынаццацігадовы Алік — злодзей. А маёр — муж цёці Маі — сказаў, што заўтра пойдзе ў школу, прама да дырэктара, а калі не дапаможа школа, то адразу да начальніка міліцыі. Так што лепш адразу прызнацца, шынель вярнуць, а то... Што будзе далей, зразумела...

У двары не любілі ні цёцю Маю, ні яе мужа — адстаўнога маёра. Не любілі за тое, што яны лічылі сябе вельмі важнымі, што яны доўга жылі ў Германіі, што сварлівая жонка маёра ніколі не працавала, за тое, што яны мелі чорную «Волгу». Сварылася цёця Мая без дай прычыны. Яна магла крычаць з балкончыка на дзяцей, якія спяваюць у альтанцы, на футбалістаў, на шафёра палівачкі, які заехаў у двор. У маёра і яго жонкі дзяцей не было, а быў сіямскі кот Фрыш. Кот еў толькі свежую рыбу, піў чыстую ваду, сядзеў на балкончыку і пранізліва, амаль як гаспадыня крычыць, каўкаў. Цёця Мая баялася, што падлеткі, якія збіраюцца на лесвічных пляцоўках, могуць Фрыша звесці, ці атруціць. Калі па шчырасці, то да ката падыходзіць баяліся, а калі і з'яўлялася жаданне пагладзіць прыгожую жывёлу, то Фрыш сіпеў, ашчэрваў пашчу, уздымаў на хрыбце шэрую, як дым, поўсць, а на чорна мурзатай галаве ільдзіста ўспыхвалі ярка-сінія вочы.

Час ад часу маёр выскокваў у пад езд з пасам у руках, у трусах і майцы і праганяў падлеткаў на вуліцу, хоць там лупіць дождж ціваліць снег... Песні, што спявалі пад гітару, заміналі маёру слухаць радыё, а ягонай жонцы накручваць бігудзі. Яшчэ сям ю маёра не любілі за тое, што яны займаюць вялікую кватэру на чацвёртым паверсе і ўсім расказваюць, што не могуць адпачываць, бо падлеткі гойсаюць па гарышчы, як тыя коні...

Алік зацята маўчаў. Алікава маці плакала, прасіла сына прызнацца і вярнуць шынель. Цёця Мая крычала на ўвесь пад'езд, што калі людзі не могуць выхоўваць дзяцей, то і заводзіць іх не трэба. Маер мераў пакой крокамі, крута паварочваўся і махаў пад носам у Аліка жоўтым ад тытуню ўказальным пальцам.

— Алік, сынок, што ты рабіў на гарышчы. — скрозь слёзы пытала маці.

— Шынель краў! Вось што рабіў ён на гарышчы! Можа, нават і не адзін. Іх тут цэлая банда. Яны і котку маю могуць звесці ці атруціць!— крычала, аж сліна ляцела, цёця Мая.

— Я іх усіх выведу на чыстую ваду. У суд падам. Не важна, што ён не паўналетні!— гучна, камандзірскім голасам, казаў адстаўны маёр.— Я гэта так не пакіну, хопіць! Парадны шынель, з новымі пагонамі...

— Што ты там рабіў?— схапіла за плячо і пачала трэсці падлетка цёця Мая.

— Нічога,— раптам сказаў Алік.

— Ён кажа, нічога! Вы чулі, ні-чо-га! А куды падзеўся шынель? Куды? Я цябе, злодзей, пытаю? Што надзьмуўся і ў падлогу глядзіш?

— Я не браў шынель. Не браў! — упарта паўтараў Алік і глядзеў на расчырванелы, тлусты, аж кроплі поту выскачылі, твар цёці Маі.

— Ён не браў! Вы чулі? Ён не браў! Я ўзяла! Ці, можа, Пятро Пятровіч узяў? А калі не ты— то хто? Хто? Адказвай, злодзей!

— Я не браў!

— Я неаднойчы бачыла, як ты на гарышча ходзіш. Бачыла сама, на свае вочы, а калі трэба, то і сведкаў знайду.

Алікава маці закрыла хлопца і паабяцала, што за шынель аддасць грошы, а перапэцканую бялізну перамые і высушыць. Яна пачала прасіць, каб у школу не хадзілі і ў міліцыю не заяўлялі. Яна пачала скардзіцца на сваё здароўе, на тое, як цяжка адной гадаваць хлопца, на тое, што яна занятая на працы, а ён таму і расце вось такі.

Алік не стрываў і выбег у кухню, а потым зачыніўся ў прыбіральні і заплакаў.

— Я не браў, не браў! Мама, не плач, не плач! — выкрыкваў ён з прыбіральні і душыўся слязьмі.

Яшчэ доўга гучаў на ўвесь пад'езд пранізлівы лямант цёці Маі і адрывісты камандзірскі бас адстаўнога маёра.

Алік ляжаў тварам да сцяны і ўздрыгваў ад крыўды, ад шкадавання сваёй маці, Хрысціны і сябе самога.

Калі ён пачаў думаць пра Хрысціну, то крыху супакоіўся. У кухні гарэла святло. Алік падняўся і басанож прайшоў туды. Яго маці абірала бульбу, каб згатаваць сняданак. Алік абняў маці і зашаптаў на вуха:

— Мама, не плач! Супакойся. Я не браў шынель. Навошта ён мне? Я невінаваты. Усё абыдзецца, а я ні пры чым, павер! — казаў Алік і прыціскаўся да маці.

— Ідзі спі. Я табе веру. Спі, а то ў школу праспіш,— сказала жанчына і адправіла Аліка спаць.

Яшчэ доўга закручвалася спружынкамі лушпінне і падала з-пад бліскучага ляза ў сметніцу. Яшчэ доўга прабівалася жоўтаю палосай святло з кухні ў пакой. Хлопчык заснуў, а прад вачамі былі акно Хрысцінінай кватэры, і яна, з акардэонам на каленях, і гарадок, які нагадвае цацачны макет, калі на яго глядзець праз слыхавое акенца чатырохпавярховага дома.

А цяпер, калі Алік спіць, варта расказаць пра тое, што ж адбылося на гарышчы, расказаць пра хлапчуковую таямніцу, якую ён так упарта і зацята хаваў нават ад маці.

Цэлы месяц, амаль штодня, Алік хадзіў на гарышча свайго дома.

Ён ціха ўздымаўся па сходах, асцярожна адчыняў нізкія, абабітыя бляхай дзверы і рабіў крок у цемру. Дзверы жалобна скрыгаталі, і на гэты гук гарышча адказвала таемнымі галасамі. Лапаталі і зрываліся з месцаў галубы, хісталася кранутая скразняком бялізна, уздымаўся і пачынаў курэць у вузкіх промнях святла залацісты пыл.

Гэта толькі на першы погляд здавалася, што на гарышчы цёмна. Калі вочы прызвычайваліся, а сэрца пераставала тахкаць, Алік рухаўся пад спічастымі перакрыжаваннямі бэлек і крокваў, ішоў ціха, бо ведаў, што кожны крок чуцен у кватэрах чацвёртага паверха.

Хутка і нячутна хаваліся ў цемру каты, якія палявалі на галубоў, і адтуль, з цемры, пазіралі на самотнага хлапчука зялёнымі вачамі. Спалоханыя птушкі супакойваліся і пачыналі мірна вуркатаць на бэльках пад самым дахам, у нябачнай чарнаце.

Алік адхінаў бялізну, якая прывідна свяцілася і пахіствалася. Па бялізне ён згадваў суседзяў. Галіфэ — адстаўны маёр. Сіняя сукенка — цёця Мая і гэтак далей.

Хлопец уладкоўваўся на бэльку і адчыняў каламутнае гарышчынскае вакенца. Ён разглядаў гарадок: пляц з фантанам, Палац культуры, коміны завода, маленькіх людзей, аўтамабілі, цёмныя купы таполяў. Але не гарадок яго цікавіў, а вокны Хрысцінай кватэры ў доме насупраць. З гарышча ён даўно вывучыў інтэр'ер пакояў і кухні, ведаў, дзе і што стаіць. Ён не прызнаваўся сабе ў тым, што закахаўся ў бялявую Хрысціну. Спачатку ён проста сачыў за ёй, яму падабалася глядзець, як яна круціцца прад люстрам, як прыбіраецца, як сам-насам танцуе, як схіляецца над кніжкай ці грае на акардэоне. Музыкі ён не чуў, але спрабаваў уявіць, і гэта прыносіла задавальненне.

Сёння Хрысціна павінна была прыйсці на гарышча. У школе, на вялікім перапынку, яны дамовіліся аб спатканні.

Алік бачыў, як яна збіраецца, як складае у чорны футарал стракаты акардэон. Да спаткання заставалася палова гадзіны.

Заскрыгаталі дзверы. Падлетак адскочыў ад вакенца і стаіўся між комінам і бэлькай. Асцярожна паўз яго прайшлі: Руды Віцька і Максім, старэйшы брат Хрысціны. Хлопцы агледзеліся, пашапталіся, знялі з вяроўкі шынель адстаўнога маёра, запхалі яго ў пляцак і падаліся да другіх дзвярэй. На гарышча чатырохпавярховага дома можна было трапіць праз кожны з трох пад'ездаў. Алік наважыўся выйсці, але пачуў, як Руды Віцька вярнуўся і шморгнуў па вяроўцы нажом. Бялізна абрынулася ў пыл...

Алік пачаў спрабаваць звязаць вяроўку, на якой сохла бялізна, але не паспеў — на гарышчы з'явілася цёця Мая і схапіла яго за каўнер. Што было далей, ведалі ўсе жыхары першага пад'езда.

У школу Алік ішоў сам не свой. На ўроках трывожна паглядаў на дзверы, што казалі настаўнікі — не слухаў.

На перапынку да Аліка падышла Хрысціна.

— Я ўсё ведаю,— сумна сказала яна.— Ад цябе я такога не чакала. Навошта ты ўкраў шынель?

— І ты мне не верыш. Я не браў. Я хацеў прывязаць вяроўку з бялізнай. Я хацеў як лепш, а яна мяне схапіла і пачала крычаць.— Алік спрабаваў растлумачыць, хацеў сказаць, што гэта не ён, а яе брат узяў шынель, але нешта не дало.

— А калі не ты, то хто?

— Я не скажу.

— Ты яшчэ і спалохаўся... Вось не чакала.

— Я не магу табе сказаць. Зразумей гэта.

— Цябе выганяць са школы!

— Няхай, але я не краў!

Хрысціна рэзка развярнулася і пабегла па калідоры ў свой клас.

Да дырэктара Аліка не выклікалі. Пасля заняткаў ён доўга сядзеў на школьнай пляцоўцы і глядзеў на свой дом. Глядзеў на вокны сваёй кватэры, на свой балкончык, дзе сохла бялізна цёці Маі, на галубоў, якія выляталі праз акенца з гарышча. Ён адчуваў сябе няшчасным і дарэмна на ўсё жыццё ўсімі пакрыўджаным.

Па школьным двары прайшла Хрысціна і зрабіла выгляд, што яго не заўважыла.

Знаёмыя падлеткі паляпалі Аліка па плячы, пацiснулі руку і параілі ні ў чым не прызнавацца. Хлопцы сказалі, што калі ён будзе і далей маўчаць, то ўсе адвяжуцца, а потым і забудуць.

Маёр з ліхтарыкам аблазіў усё гарышча, перапэцкаўся ў павуціннe і бруд, але шыняля не знайшоў. У такім выглядзе ён уварваўся ў кватэру пад нумарам дваццаць адзін і сказаў, што калі заўтра не атрымае тое, што Алік узяў,— хлопцам будзе займацца міліцыя.

У кабінеце дырэктара Алік маўчаў. Не адказваў ён і на крыкі міліцыянера.

— Не браў,— адзінае, што пачулі дырэктар школы і малады сяржант.

Хрысціна яго пазбягала, а ён да яе і не падыходзіў, бо жыццё страціла сэнс.

Шынель знайшоўся праз тыдзень, тады, калі хлопец ездзіў у вёску. У дзверы загадчыка ціра пазванілі. На званок выйшла цёця Мая. Пакамечаны парадны шынель вісеў на парэнчах лесвічнай пляцоўкі і паблiскваў гузікамі.

Школу Алік скончыў з двойкай па паводзінах і адразу з'ехаў на ўсё лета да цёткі на хутар.

Калі ён вярнуўся, высокі і загарэлы, яму расказалі пра шынель. Расказалі, што бацькі Хрысціны з'ехалі ў Мінск, а яе брат Максім паступіў у інстытут і цяпер у іхнім двары няма «караля». Яшчэ расказалі, што тлусты сіамскі кот цёці Маі ўпаў з балкона і трапіў пад палівальную машыну... Хрысціна ехаць з гарадка не хацела, і яе бачылі заплаканай.

Алік падняўся на гарышча. Яму давялося крыху прыгнуць галаву, каб прайсці ў скрыгатлівыя дзверы, абабітыя бляхай. Тут усё засталося нязменным. На вяроўцы хісталася бялізна. Алік пазнаў сінюю сукенку цёці Маі, галіфэ маёра і ўсміхнуўся.

Фіранак на вокнах Хрысцінінай кватэры не было. Ярка гарэла лямпачка, незнаёмыя людзі клеілі шпалеры.

Калі за спінаю заскрыгаталі дзверы, Алік не стаў хавацца, ён глядзеў на свой гарадок, які цацачным макетам ляжаў перад ім.

## ПЛАСТЫЛІНАВЫ КОННІК

Фрэдзя любіў гуляць у салдацікі. У жніўні яму споўнілася дзесяць гадоў, і ён трохі саромеўся сваіх дзіцячых забавак, але ў сям'і ён быў самы малодшы, і бацькі не папракалі яго. Фрэдзя складаў салдацікі ў стары бацькаў партфель. Ён быў мяккі і прыемны навобмацак, бацька казаў, што партфель з натуральнай скуры, але ад скуры пахла тытунём.

Летам, калі Фрэдзю вазілі да дзеда, бацька браў у дарогу гэты партфель, а Фрэдзева войска перасыпалі ў поліэтыленавы мяшок і пакідалі ў шафе. У вёсцы Фрэдзя рабіў сам сабе салдацікаў з калючых галінак грушы, што засохла за дзедавай хатаю. Дзед спілаваў пад корань сухое дрэва і за адзін вечар змайстраваў любімаму ўнуку доўгі і моцны грушавы лук. Замест цецівы дзед нацягнуў тонкі сталёвы дрот, з роўнага і стромкага ядлоўцу нарэзаў стрэлаў, а з бляхі вырабіў наканечнікі. Фрэдзя ледзь нацягваў цеціву, але стрэлы з бляшанымі вастрыямі праціналі паветра тоненькім свістам і білі дакладна і далёка.

Калі на другі дзень Фрэдзя пацэліў у суседскага пеўня і суседка прынесла дзеду забітую птушку, Фрэдзя хаваўся на гарышчы, што пахла правэнджанымі кумпякамі. Дзед пасек лук і разам са стрэламі кінуў у печ. А Фрэдзя тым часам знайшоў на гарышчы трохгранны штых, што сядзеў за крокваю, дзед даставаў яго раз на год пад Каляды біць парсюка. Хлопчык сцізорыкам нарэзаў паляндвіцу, нанізаў лусткі на штых і пачаў раскладаць вогнішча з газет, каб падсмажыць шашлык. Фрэдзю знайшлі ў той момант, калі агонь яшчэ можна было заліць адным вядром вады. З-за суседскага пеўня на Фрэдзю не сварыліся.

Хлопец зрабіў сабе войска з сухіх грушавых калючак і гуляў на пяшчаным адхоне старога гасцінца. У жоўтым распараным на сонцы пяску любілі пагрэцца вастрахвостыя яшчаркі-жаўтапузікі. Аднаго разу Фрэдзя злавіў яшчарку і скарміў яе мурашніку. Ён любіў назіраць за мурашкамі, што збудавалі з кастрыцы і церухі цацачную гару і праклалі бязважкімі ножкамі ва ўсе бакі тоненькія сцежкі. Фрэдзя прыносіў мурашніку хлеб, яблыкі, дзедаву скварку, і ўсё знікала за ноч. Нават палова бабінай аладкі — бо Фрэдзя сам мог з'есці толькі палову — знікла да раніцы. Фрэдзя кінуў яшчарку ў мурашнік і на другі дзень знайшоў прыхаваны пад кастрыцаю блакітны, што кафля ў басейне, шкілецік. Хлопчыка здзівіла ненажэрнасць мурашніка. Фрэдзя забраў шкілецік яшчаркі сабе. Калі вяртаўся з бацькам у горад, пакінуў шкілецік у дзедавай хаце на гарышчы.

Зімою ў горадзе Фрэдзя гуляў у сапраўдныя салдацікі. Ён аднаўляў на дыване грунтоўныя бойкі з падручніка па гісторыі, але «нашыя» ў Фрэдзі заўсёды перамагалі. «Нашымі» ў Фрэдзі былі гнуткія гумовыя індзейцы, а «ворагамі» — важкія алавяныя пяхотнікі. Пляскатых коннікаў-рыцараў Фрэдзя пакідаў сабе ў рэзерв, а лёгкія пластмасавыя уланы і гусары былі на баку «ворагаў». У Фрэдзевых бойках заўсёды пачыналі нападаць «ворагі», яны акружалі «нашых», але тут з'яўлялася рэзервная кавалерыя і коні тапталі пяхотнікаў, падалі і раздушвалі сваіх коннікаў, індзейцы кідалі сякеры ў кулямётчыкаў, гусары секлі шаблямі каўбоеў, рыцары пускалі стрэлы ва уланаў. На колькі вечароў падлога ў Фрэдзевым пакоі была засыпана забітымі воямі, бо параненых у гульні не было.

Фрэдзя аднаўляў на дыване бітвы, і «нашыя» скідалі ворагаў у рэчку Нямігу, або секлі крыжакоў пад Грунвальдам, або тапілі манголаў у пінскіх балотах, ці білі хана Шайбака пад Лідаю,— у Фрэдзевых бітвах «нашый» заўсёды выходзілі пераможцамі. Хлопчык любіў чытаць кнігі па гісторыі — толькі ў школьных падручніках мала знаходзіў пра «нашых»,— магчыма, таму ён пакінуў вайну, пачаў будаваць замкі.

Кожнае лета Фрэдзя з бацькам ездзілі ў мястэчка Мір, каб зайсці ў замак, гэта недалёка ад дзедавай вёскі. Замкі на паштоўках і ў тэлевізары не ўражвалі хлопчыка, і толькі Мірскі замак існаваў на самай справе, і гэта быў самы прыгожы замак, па якім Фрэдзю давялося пахадзіць.

У Фрэдзевым пакоі стаяў братаў мальберт, які часова ператварыўся ў каркас замка. Фрэдзя прыносіў з бацькавага кабінета стосы кніг і абкладаў імі мальберт. «Гісторыя крыўскай кнігі», «Статут Вялікага княства...», слоўнік Насовіча, летапісы і іншыя грунтоўныя фаліянты ішлі на падмурак, а муры выкладаліся з драбнейшых цаглінак збораў твораў: спачатку зямлістымі томікамі Якуба Коласа, а розная аздоба — бастыёны, брамы — з меншых бялюткіх томікаў Янкі Купалы. Да замкаў Фрэдзя прыбудоўваў рознакаляровую вежу з паэтычных зборнікаў, на вежу ішла розная мяшанка, абы падыходзіла па колеры і памеры. Зімою Фрэдзя любіў сядзець, падкурчыўшы ногі, у сваім замку за мальбертам, а летам бацька вазіў хлопчыка ў сапраўдны Мірскі замак.

Фрэдзеў брат быў мастаком, і хлопчыку хацелася стаць дарослым і падобным да брата. Аднойчы Фрэдзя ўзяў у братавым эцюдніку цюбік з алейнаю фарбаю і схаваў пад дыванам на падлозе — ён хацеў намаляваць свой замак, але цюбік неўзабаве раздушыўся, і брату давялося прынесці Фрэдзю кавалак пластыліна, каб хлопчык больш не

браў алейных фарбаў, а бацькі былі вымушаны паскручваць і прабраць з падлогі ўсе дываны.

З пластыліна Фрэдзя зляпіў чалавека і пасяліў у сваім замку. Маці расказвала хлопчыку, што яе бацька быў кавалём. Фрэдзя любіў слухаць, як маці расказвае яму пра кузню, і хлопчык пачаў насіць да партальнага крана і пляшчыць на рэйках цвікі і іншую металічную дробязь. З цвікоў Фрэдзя вырабляў зброю для свайго пластыліна: Фрэдзя вырашыў зляпіць каня. Праўда, спачатку ён спрабаваў зляпіць сапраўднага каня, але пластыліна хапіла толькі на капыт і трошкі нагі, і Фрэдзя прапарцыянальна падзяліў увесь пластылін так, каб коннік адпавядаў каню, і зляпіў спачатку каня, а потым чалавека. Хлопчыку падабаліся белыя коні, толькі конь і чалавек атрымаліся, як пластылін — шэра-бура-зялёнага колеру. Хамутоў, папружак і іншую конскую зброю Фрэдзя не рабіў, адно выкаваў конніку меч з расплешчанага цвіка, а з касцянога гузіка з чатырма дзірачкамі зрабіў шчыт, гузік Фрэдзя зрэзаў са зношанага дзедавага фрэнча.

Усе салдацікі былі ніжэй пластылінавага каня, і коннік бараніў Фрэдзеў замак, але, калі ўключылі батарэі і ў пакоі стала горача, пластылін пачаў паступова ператварацца ў кашу. Фрэдзя пакідаў на ноч свайго конніка ў лядоўні, а днём падоўгу трымаў пад халоднаю вадою, і брат параіў яму зрабіць каркас. Раней Фрэдзю даводзілася кожны дзень перарабляць конніка, бо конскія ногі доўга не трывалі: пляшчыліся і крывіліся, то адвальвалася рука з мячом, то конская галава паступова з'язджала да зямлі і выцягвала конскую шыю ў хобат.

На каркасе коннік трымаўся надзейна і роўна, і конскія ногі не разлазіліся і не гнуліся, а сталі тонкімі і роўнымі, як у сапраўднага кавалерыйскага каня. Фрэдзя нават адзін капыт у каня адарваў ад зямлі і сагнуў конскую нагу — конь няблага трымаўся і на трох нагах. Меч, прыкручаны да каркаса, рука трымала над галавою цвёрда і жорстка. Чатыры дзірачкі на шчыце конніка складалі магічны сімвал.

У лютым памёр дзед. Бацька не ўзяў Фрэдзю на пахаванне, толькі салдацікаў перасыпаў у празрыстую торбу. Калі бацька вярнуўся і аддаў Фрэдзю партфель, то хлопчык знайшоў у ім дзедаў штых.

Бацькі адразу адабралі штых у хлопчыка, але Фрэдзю на імгненне падалося, што пакой напаўняецца пахам гарышча: спарахнелымі газетамі і вэнджанымі кумпякамі.

У партфелі было два аддзяленні, і раней Фрэдзя складаў асобна «сваё» войска і «варожае». Толькі калі з'явіўся яго пластылінавы коннік, Фрэдзя выразаў акуратную перагародку нажніцамі, і салдацікі палеглі ў партфель адною грамадою. У Фрэдзевых гульнях больш не

было падзелу на «нашых» і «ворагаў» — усе салдацікі ператварыліся ў чужынцаў і спрабавалі то акружыць і спаліць, то захапіць і знішчыць Фрэдзеў замак. Хлопчыку здавалася, што «нашыя» больш не маюць свайго войска, і адзіны пластылінавы коннік змагаўся з усімі ворагамі, але чужынцы перамагалі і замак разбураўся, а коннік больш ніколі не выходзіў пераможцам.

## ЖУК-АЛЕНЬ

У лагеры Янак любіў калупаць трухлявыя пні і выкорваць з-пад кары жукоў-дрывасекаў. Ён лавіў яшчарак у сухаватым верасе, бегаў за чмялямі па кучаравым чаборы. А вечарам дзеці не хацелі класціся спаць поруч з Янакам, бо з яго шортаў вылазілі і распаўзаліся па пакоі злоўленыя ім за дзень жукі і мурашкі. Яму хацелася злавіць самага вялікага жука. Ён уяўляў жукоў-плывунцоў большымі за кітоў, а жукоў-насарогаў такімі, як бульдозеры.

Неяк ноччу Янаку прыснілася, быццам да яго прыляцела невядомая птушка і чалавечым голасам сказала, што каля плота ў лопуху жыве жук-алень.

Доўгі Янакаў цень накрыў лісты лопуху і ўзняўся на плоце. Раптам адзін з лістоў зварухнуўся ад ветру, захістаўся, выцягнуўся і адвіс да зямлі. На ім з краю з'явіўся зялёна-карычневы конік. Здавалася, конік пазірае на хлопчыкавы рукі. Доўгія вусы то кляліся на ліст, то цягнуліся да неба. Цень на плоце прыгнуўся і скочыў на зямлю. Янакавы пальцы сціснулі вострыя лапкі. Сківіцы коніка заварушыліся і паспрабавалі дацягнуцца да пазногцяў. Безабароннае цела здавалася мяккім, дубчыкі вусоў закруціліся над бліскучымі вачыма, і галава імкнулася данесці чорныя сківіцы да сціснутых пальцаў, але не магла зламаць абалонкі шыі. Янак дастаў з кішэні каробачку, выкінуў пад плот жужаля і асцярожна пасадзіў на яго месца коніка.

— Дзе ты быў? — спыніў Янака Алесеў голас.

— Паглядзі, каго я злавіў!

Янак раскрыў каробачку і выцягнуў за крылы коніка.

— Ну і што, вялікі конік!

— Гэта не конік, а сапраўдная саранча. Глядзі, галава круглая, карычневая і крылы доўгія — можа далёка лётаць.

— Саранчы ў нас няма.

— Есць, толькі мала. Каб больш, яна магла б усё зжэрці.

— Што зжэрці?

— Усё, гэты лагер і людзей. Я ведаю, яна на чыгунцы цягнік зжэрла.

— Як! І жалезныя колы?

— Усё, і колы. Такія сківіцы — можа дрот перакусіць. Падсунь палец.

— Не, палец не дам, а дрот пашукаю.

Алесь выцягнуў з кішэні тонкія медзяныя дроцікі, з якіх дзеці спляталі стракатыя пярсцёнкі і ручкі-каўбаскі, і асцярожна падсунуў дроцік да конікавай галавы. Сківіцы адчулі цвёрдую абалонку і сціснуліся. Алесь ірвануў да сябе руку з дроцікам і ледзь не адарваў коніку галаву, але той паспеў расчыніць кусачыкі сківіц.

— Што ты трапечашся, не бойся, я добра трымаю!

Янак схаваў коніка ў каробачку і памацаў надкусаны кавалак дроціка.

— Як нажніцамі, секанула.

Янак ляжаў на жываце і прыслухоўваўся да мяккага бумкання начных матылёў у шкло. Алесь сеў на зэдлік побач з Янакам, скінуў сандалі і памацаў Янакава адзенне на суседнім зэдліку. З кішэні вытыркаліся рабрыны каробачкі. Алесь асцярожна выцягнуў яе з Янакавых шортаў і выпусціў коніка суседу пад коўдру.

У пакоі выключылі святло. Спаць Янаку не хацелася. Ён думаў пра тое, чаму не бывае матылёў, большых за птушак.

— Алесь, ты не спіш? — Янак павярнуўся на бок.

— Не.

— Ты ведаеш, што было б, калі б матылі выраслі большыя за арлоў?

— Яны ноччу павыбівалі б шыбы.

— Дурны ты,— пакрыўдзіўся Янак.

— Давай заўтра ноччу каго-небудзь напалохаем,— ціха сказаў Алесь і паглядзеў у цемру пакоя.

— Як?

— Пакладзём пад прасціны шпагат змяёю, а калі той ляжа, ты ўсім раскажаш пра тэрмітаў ці якую іншую брыду, а я пацягну шпагат. Вось будзе смеху!

— Тэрміты не брыда і ў нашым лесе не вядуцца, што іх баяцца?

— А ты каго-небудзь баішся?

— Не, я нават скарпіёна магу злавіць. Я чытаў, што вакол яго трэба наліць вады і ён сам сябе заб'е.

— Чаму? — здзівіўся Алесь.

— Таму, што не зможа ўцячы, бо ён вады баіцца.

— Дык напалохаем заўтра каго-небудзь?

— Абавязкова.

Янак павярнуўся на другі бок. Гаварыць з Алесем больш не хацелася. Яму захацелася спаць.

Раптам нешта вострае дакранулася да Янакавай лыткі. Ён адчуў, як колкія ножкі невядомай істоты перабіралі скуру і паступова набліжаліся да калена.

— Ма-а-а!!! — разнеслася па пакоі начным рэхам. Хлопцы ўзняліся над ложкамі і ўбачылі Янака на зэдліку. Пакамечаная коўдра на падлозе рогам цягнулася ў цень. На прасціне варушыўся прыдушаны конік.

— Трус! Трус! Беларус! На вайну сабраўся...— быццам здалёк да Янака даляцеў Алесеў голас.

Янак доўга не мог заснуць. Яму хацелася адпомсціць. Ён думаў, што заўтра зловіць авадня і выпусціць у пакой, а ўсім скажа, што гэта шэршань. Яму хацелася злавіць сапраўднага шэршня, але авадні, што віліся над ліпучымі стужкамі шашы, падобныя да шэршняў, і хлопцы іх не адрозніваюць. Янак супакойваў сябе тым, што ведаў, як адрозніць сапраўднага шэршня ад авадня.

**ЗМЕСТ**



**Паркан**:
Зб. апавяданняў: Для сярэд. і ст. шк. узросту/ Маст. У. В. Адамчык, У. А. Сцяпан.— Мн.: Юнацтва, 1993.— 96 с.: іл.

ISBN 5-7880-0717-8.

Зборнік складзены з апавяданняў здольных маладых літаратараў — Адама Глобуса, Максіма Клімковіча, Уладзіміра Сцяпана, Міраслава Шайбака. Запрашаем чытачоў сваёю ўвагаю падтрымаць новае пакаленне творчай моладзі.